23 мая 2014 | № 20 (389)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Польскі Жырыноўскі
стар. 11












# Нялёгка ад «палёгкі»

**Улада зрабіла палёгку прадпрымальнікам. Але скарыстацца ёй будзе няма каму.**



Сяргей ПУЛЬША

Указ №222 «Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі» Лукашэнка падпісаў 16 мая гэтага года. Гэты ўказ дазваляе ІП наймаць трох «староннніх» працоўных.

Але ўзамен з 1 ліпеня ўсе прадпрымальнікі павінны рэалізоўваць тавар пры наяўнасці дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё. У тым ліку тых тавараў, якія ўвозяцца з краінаў Мытнага саюза.

Указ прадугледжвае пэўны «пераходны перыяд» — да 1 сакавіка 2015 года прадпрымальнікам прадастаўлена права рэалізацыі рэшты тавараў, увезеных у Рэспубліку Беларусь да 1 ліпеня 2014 года з тэрыторыі дзяржаў Мытнага саюза без дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё. Гэтыя рэшткі павінны быць апісаныя і зацверджаныя не пазней за 30 ліпеня ў падатковай інспекцыі. За рэалізацыю іншых тавараў, якія па-за межамі зацверджанага спісу, — адміністрацыйная адказнасць і канфіскацыя тавару.

Больш за тое, гэты ўказ дае індывідуальным прадпрымальнікам права перайсці на спрошчаную сістэму падаткаабкладання — але толькі ў тым выпадку, калі на ўсе рэалізуемыя тавары маюцца дакументы, якія пацвярджаюць іх набыццё.

У выніку мы маем тое, што на ніводным аптовым рынку ні адной краіны, дзе закупаюцца беларускія прадпрымальнікі, не выдаюцца дакументы, якія пацвярджаюць набыццё тавару. Такога не сустрэнеш на рынках Масквы, Чарнігава, Кіева, Адэсы, Беластоку і Варшавы. Там проста запакоўваюць тавар і дзякуюць за пакупку: нават звыклы для нас чэк атрымаць складана. А значыць, няма «пацвярджэння набыцця тавару», адпаведна, ён з'яўляецца «незаконным» і падлягае канфіскацыі. У выніку прадпрымальнікі могуць наймаць трох працоўных — але ім не будзе чым гандляваць.

Кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Сяргей Балыкін адзначае, што ў нашых умовах дакументам, які пацвярджае набыццё тавару, з'яўляецца таварная альбо таварна-транспартная накладная. І для ІП, якія возяць тавары «на сябе», такіх дакументаў, канешне, у прынцыпе быць не можа. Таму адзіным выйсцем для беларускіх прадпрымальнікаў застанецца толькі шукаць «шэрыя» схемы набыцця тавараў і, адпаведна, «сыходзіць у цень». «Што тычыцца рознічнага гандлю, то тут, сапраўды, патрабаванні дзяржавы абысці складана. Калі пойдзе размова, напрыклад, аб «ліпавых» дакументах, то такія дакументы лёгка вылічаюцца, а гэта яшчэ большая небяспека для прадпрымальніка», — адзначае Балыкін.

Ёсць і яшчэ адзін спосаб застацца ў бізнэсе — пераарыентавацца на іншыя рынкі. Напрыклад, з 1 чэрвеня гэтага года ў нас будзе бязвізавы ўезд у Турцыю, і лепш набываць там тавары «наўпрост», чым праз «перавалачныя пункты» ў выглядзе тых жа маскоўскіх альбо адэскіх рынкаў.

Але гэта, кажа Балыкін, для прадпрымальніка вельмі складана. «І раней, і зараз, з'ездзіць у Турцыю ці Польшчу вялікіх праблемаў не складала: выдаткі на афармленне візаў несупастаўляльныя з коштам, напрыклад, партыі тавару», — кажа ён. Аднак, калі ІП пераарыентуецца на Турцыю ці Польшчу, то такія тавары ўжо не выдасі за «прадукцыю Мытнага саюза». А гэта азначае дадатковую сертыфікацыю і мноства іншых праблемаў. «Па-першае, не ўсе прадпрымальнікі маюць такі капітал, каб везці тавары з Турцыі, па-другое, яны ў такім выпадку будуць прайграваць буйным гандлёвым цэнтрам», — лічыць эксперт.




**Каля 80% прадпрымальнікаў хутка страцяць працу**

Можа існаваць яшчэ адно выйсце — пакуль што так і не створаныя «беларуская Чаркізаўская рынкі» для ІП. Даручэнне стварыць такія гандлёвыя плошчы да 1 ліпеня ў кожнай вобласці даваў Лукашэнка. Але тое, як яны ствараюцца, не выклікае асаблівага аптымізму ў тых, для каго яны ствараюцца.

Паводле намесніка міністра гандлю Беларусі Вячаслава Драгуна, гэтыя базы арыентаваныя перш за ўсё на працу з айчыннымі вытворцамі. Але навошта беларускім прадпрымальнікам гандляваць айчыннымі таварамі, калі гэтыя ж асартымент ёсць у кожнай краме? Да таго ж, па словах Драгуна, аптовыя арганізацыі працуюць з гандлёвай надбаўкай каля 20–30%, а гэта — звычайная нацэнка звычайнай крамы. Які кошт тавару будзе ў прадпрымальніка? Канешне, большы, чым у краме. І дзе сэнс?

Такім чынам, «новыя правілы гульні» для прадпрымальнікаў выгадныя буйным гандлёвым цэнтрам: менавіта яны «перацягнуць» да сябе пакупніцкую аўдыторыю ІП.

Лідар прадпрымальніцкага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка выдае несуцяшальны прагноз: каля 80% прадпрымальнікаў, якія гандлююць зараз таварамі, закупленымі на аптовых рынках суседніх краін, страцяць працу.

«Паводле нашых ацэнак, з 100 тысяч прадпрымальнікаў па новых правілах не змогуць працягнуць працу тысяч 80 ІП. У фінансава-эканамічным абгрунтаванні падлічана, што ў 2015 годзе ажыццяўляць рознічны гандаль з выплатай адзінага падатку будуць 10 тысяч чалавек, гэта значыць, у сем разоў менш, чым цяпер. Для спажыўцоў цэны на тавары вырастуць у два, а то і ў тры разы. Дзяржава ў 2015–2016 гадах страціць да 1 трлн. 124 млн. рублёў паступленняў у бюджэт у год. Гэта катастрофа як для малога бізнэсу, так і для ўлады», — падлічвае Шумчанка.

Такім чынам, у хуткім часе ў Беларусі колькасць беспрацоўных можа значна вырасці, а беларускі бюджэт недаатрымае значную частку прыбытку, на які ўжо разлічваў. І замест таго, каб атрымліваць грошы (падаткі ад прадпрымальнікаў), беларуская ўлада павінна будзе гэтыя грошы выдаткоўваць — на дапамогу па беспрацоўі і «перападрыхтоўку» былых ІП.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. 10 сутак журналісту

**Незалежнага журналіста Яўгена Скрабца пакаралі арыштам на 10 сутак.**

Журналіст быў затрыманы 17 траўня супрацоўнікамі АМАП, калі вяртаўся дадому з ярмаркі хэндмэйда ў гандлёвым цэнтры Didas Persia. Пра сваё затрыманне Яўген паспеў сам папярэдзіць калег, даслаўшы смс. У ізалятары часовага ўтрымання журналіст знаходзіўся да раніцы 19 траўня.

Раніцай 19 траўня, пасля таго, як Яўген заявіў хадайніцтва пра допуск да судовага разбіральніцтва адваката, суддзя вырашыў перанесці працэс на 21 траўня і вызваліў Скрабца. Аднак супрацоўнікі міліцыі, якія прывезлі журналіста ў суд, адразу заявілі, што зноў яго затрымліваюць і адвязуць у пастарунак.

Далей падзеі разгортваліся яшчэ больш дзіўным чынам: днём з'явілася інфармацыя, што судовае пасяджэнне зноў перанесена і ўсё ж адбудзецца 19 траўня. У выніку Яўгена Скарбца другі раз прывезлі ў суд Ленінскага РАУС Брэста, дзе пакаралі адміністрацыйным арыштам на 10 сутак нібыта за дробнае хуліганства.

Сёлета Яўген Скрабец атрымаў пракурорскае папярэджанне пра недапушчальнасць працы на замежныя СМІ без акрэдытацыі, пры гэтым у пракуратуры адмовіліся выдаць копію афіцыйнага папярэджання.

### БАБРУЙСК. Музей сталінскіх рэпрэсій

**Увечары 19 траўня ў бабруйскім офісе АГП адбылося адкрыццё экспазіцыі Музея сталінскіх рэпрэсій.**

Усе матэрыялы для музея знайшла грамадская актывістка Вольга Піманава. Дакументы, якія тычацца дзейнасці аналагічнага музея Ганны Бакач, які раней працаваў у Бабруйску, прадаставіў рэдактар «Бабруйскага кур'ера» Анатоль Санаценка.

На адкрыццё прыйшло некалькі дзясяткаў бабруйчан.

Уладзімір Раманоўскі, старшыня беларускай філіі «Мемарыяла», прыехаў на адкрыццё, каб прэзентаваць музею падборку навуковых прац і кніг, якія ўтрымліваюць матэрыялы на тэму рэпрэсій на тэрыторыі Беларусі.

«У мяне вялікая надзея на Вольгу Піманаву як на энтузіястку, — адзначыў Уладзімір Раманоўскі. — Буду імкнуцца дапамагчы легалізаваць гэты музей. Ён можа пакласці пачатак зараджэння музейнага руху ў Беларусі, прысвечанага тэме рэпрэсій».

Вольга Піманава распавяла пра музейныя экспанаты, прывяла агульныя звесткі па рэпрэсаваных у краіне і на Бабруйшчыне. Азнаёміла з лёсам знакамітых землякоў, якіх закрануў карны апарат, расказала гісторыі некалькіх бабруйчан, якія былі расстраляныя ў бабруйскіх турмах НКУС па надуманых прысудах.

Першыя наведнікі музея прагледзелі ўрывак з фільма пра рэпрэсаваных святароў «З крыжам на крыж», а таксама фільм пра Ганну Бакач і яе музей.

### БЯРОЗА. ДАІ супраць раварыстаў

**Другі год бярозаўскія інспектары ДАІ актыўна змагаюцца з раварыствамі.**

Раварысты не вытрымліваюць скакання па высокіх бардзюрах пры перасячэнні тратуараў з праезднай часткай і едуць па абочыне дарогі. Нядаўна быў пакараны штрафам у 2 базавыя велічыні 66-гадовы Сцяпан Сцепанюк:

«Нашыя пешаходныя дарожкі не прадугледжаны для праезду роварам — павінны быць абсталяваныя з'ездамі. У мяне ёсць адказ з Брэсцкага аблвыканкаму. «У месцах перасячэння пешаходных шляхоў і праезджай часткі вышыня бартавога каменя не адпавядае вызначаным патрабаванням. У горадзе адсутнічаюць дарожкі або палосы, якія адмыслова прызначаныя для раварыстаў», — тлумачыць Сцепанюк.

Тым не менш гэта не замінае інспектарам ДАІ караць штрафамі ад 1 да 3 базавых велічынь.

Абураюцца і іншыя раварысты.

«Тратуары вузкія, цяжка размінацца з прахожымі, — кажа жыхарка Бярозы Ірына Клышэйка. — Няхай для раварыстаў спачатку створаць неабходны ўмовы, тады і трэба патрабаваць выканання законаў».

Праваабаронца Сяржук Русецкі лічыць, што аштрафаваным раварыстам можна спрабаваць абараніць свае правы ў судзе: «Калі паездка па ходніках не забяспечана тэхнічна, то штрафы за паездкі па праезнай частцы варта аспрэчваць у судзе».

Па афіцыйных дадзеных, за 2013 год у Бярозаўскім раёне пакарана 570 раварыстаў.

**Матэрыялы падрыхтаваныя па інфармацыі сайта spring96.org**

# Журналісты пад пагрозай

**Намеснік старшыні ГА «БАЖ», юрыст Андрэй Бастунец пракаментаваў апошнюю хвалю адміністратыўных спраў супраць журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ.**

— Не думаю, што гэта нейкім чынам звязана з хакейным чэмпіянатам. Бо праблемы узнікаюць не ў Мінску, дзе гэты чэмпіянат праходзіць, а ў іншых гарадах краіны. Гэта і выпадкі з Аленай Сцяпанавай і Святланай Сцяпанавай у Віцебску, з Алесем Дзянісавым, Андрэем Мялешкам і, верагодна, Алесем Залеўскім на Гродзеншчыне...

Журналістаў абвінавачваюць у парушэнні аднаго і таго ж артыкулу 22.9 ч.2 КаАП («незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ»). І тут я бачу як мінімум дзве сур'ёзныя праблемы.

Першая — дастаткова дзіўная і смешна выглядае тое, што пратаколы за парушэнне заканадаўства аб СМІ складаюць міліцыянты. Большасць з якіх, я перакананы, гэтага закона і ў вочы не бачылі.

Другая праблема — незалежнасць нашых судоў пры разглядзе зваротаў міліцыі і веданне імі таго ж заканадаўства аб СМІ.

Я ўпэўнены, што ў выпадку з Дзянісавым (тут судовая пастанова ўжо ўступіла ў законную сілу) і суд першай інстанцыі, і касацыйная інстанцыя вынеслі рашэнні, не разабраўшыся ў тэрміналогіі закона і нават не ўзгадваючы пра Канстытуцыю. Праваахоўнікі і суды фактычна прыроўніваюць журналістаў да рэдакцый СМІ, звінавачваючы іх у «незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ». Але ж прадукцыю СМІ журналісты не вырабляюць! Прадукцыя — гэта наклад друкаванага выдання, тэле- альбо радыёпраграма цалкам і г.д. Паводле закона «Аб СМІ», журналісты рыхтуюць матэрыялы, паведамленні для СМІ, на аснове якіх рэдакцыі якраз і вырабляюць «прадукцыю СМІ». Прасцей кажучы, прадукцыяй журналіста з'яўляецца артыкул, сюжэт, матэрыял, а вось ужо з іх рэдакцыя СМІ і робіць прадукцыю СМІ. Адпаведна, толькі рэдакцыя і можа быць прыцягнутая да адказнасці па гэтым артыкуле, а ніяк не журналіст.

Я яшчэ магу зразумець, што службовыя асобы ў міліцыі не ведаюць закона аб СМІ. І тут не ўсе суды падрыхтаваныя да падобных спраў (а механізм выпраўлення памылак у выглядзе касацыі і нагляду ў Беларусі працуе ў межах статыстычнай памылкі). Але ж як патлумачыць тое, што органы, якія вядуць адміністратыўны працэс, не толькі памыляюцца ў прымяненні матэрыяльнага права, але ж ігнаруюць і працэсуальнае? А яго нормы мусяць і ў праваахоўнікаў, і ў судоў, як кажуць, ад зубоў адскокваць!

**baj.by**

# Залатое мяса

**За апошнія тыдні свініна адбўйная вырасла ў цане з 85–90 тысяч рублёў да 140 тысяч за кіло. І па гэтых коштах мяса ў некаторых крамах не хапае.**

«У мяне цяпер праблемы са свінінай! Свініну нам не даюць! — кажуць Еўрарадыё ў бабруйскай краме «Цымус», што працуе ад мясцовага мясакамбіната. — У мяне толькі рулька, шашлык, рагу, іншым разам трапляюцца рэбры. Лапатка, шыя, паляндвіца — гэтага няма ўжо болей за месяц. Уся свініна, што ёсць, ідзе на вытворчасць, на вяндліны, едзе ў Расію. А субпрадукты — рукі-ногі — гэта ёсць. Можна сказаць, ужо два месяцы такая праблема. Заяўкі пакідаем на фарш, а заяўка не выконваецца. З ялавічынай праблем няма, але гэта дорага, і не кожны яе бярэ».

На сталічнай Камароўцы ў аўторак, 20 траўня, прадаўцоў свініны небагата, часцей прапаноўваюць ялавічыну. Прадаўцы кажуць, што цяпер паўпустыя вітрыны — звычайная з'ява. Пытаюся, мо паўплывала тое, што працуюць пасля выхадных. Аказваецца, не.

«Свініны няма, цяпер гэтак жа і ў крамах. Закупачныя цэны выраслі, арэнда паднялася, вось адсюль і цэны», — кажа прадаўшчыца і раіць не звяртаць на цэннікі ўвагі — аддасць са зніжкай.

На недахоп свініны ў крамах скардзяцца і ў Мінску, і ў Брэсце, і ў Гродне — вінавацяць ва ўсім афрыканскую чуму свіней, што пранеслася па краіне ў мінулым годзе.

У сталічнай краме «Суседзі», што ля плошчы Перамогі, расказваюць, што свініны ў іх хапае — Мінскі мясакамбінат працуе добра, але звяртаюць ўвагу на цэны.

Нагадаем, з 1 красавіка цэны на мяса ўжо не пад кантролем дзяржавы. За гэты час цана на тую ж свініну адбўйную ў асобных крамах вырасла прыкладна на 67%.

У прэс-службе Мінгандлю сцвярджаюць: ніякіх праблем з пастаўкамі свініны ў крамы не існуе.

**Паводле Еўрарадыё**

# Беларуская глыбіня Севярынца

**У грамадскага дзеяча і пісьменніка Паўла Севярынца выйшла новая кніга — «Беларуская глыбіня».**

Увыданне, якое пабачыла свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў, уключаныя эсэ, напісаныя падчас апошняга зняволення аўтара. Тэксты пісаліся цягам трох гадоў і друкаваліся, па меры іх стварэння, у прэсе. Сёння эсэ пра лёс Беларусі і яе народа — усе разам пад адной вокладкай.

— «Беларуская глыбіня» — гэта сведчанне. Калі табе раптам у забытым і занядбаным адкрываецца нешта найвышэйшае — ты сам не здольны гэта ўмясціць, і таму дзелішся. Чытачу хачу сказаць: Бог побач. Тут. Ён любіць Беларусь мацней, чым кожны з нас, — і любіць настолькі моцна, што не можа пакінуць нас такімі, якія мы ёсць, — распавядае Павел. — Гэтая кніга — спроба ўглядзецца ў нашу беларускую глыбінку, каб убачыць праз яе Хрыста. Углядзецца ў вочы. У лёсы. У далягляды скрозь краты. На вокладцы зарослы калодзеж, у якім адлюстроўваюцца нябёсы, і дрэвы цягнуцца ў бездань. Беларуская глыбіня — гэта насамрэч імкненне ўгару.

Да папярэдняга выдання Паўла Севярынца, «Лісты з лесу», новая кніга і падобная, і ў той жа час адрозная ад яго: «Тут усётакі плюс шэсць гадоў, шэсцьсот кіламетраў на поўдзень, і гісторыя ды жыцці пераплеценыя нашмат гусцей. Таму ў «Глыбіні» больш пытанняў, чым адказаў».

На пытанне, чым для аўтара ёсць літаратурная дзейнасць, Павел адказвае: «Пісьменніцтва — гэта калі ты шыфрueш для чытача тое, чаго не можаш змяніць сам. Бо тое, што можаш — не губляй часу, бяры і мяняй у жыцці: рукамі, нагамі, галавой, сэрцам. Найперш — сябе».

Павел Севярынец правядзе прэзентацыю сваёй новай кнігі «Беларуская глыбіня» 21 мая — у Оршы, 23-га — у Маладзечне, 24-га — у Магілёве.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

## Падвысіць кошты на гарэлку

Кошт бутэлькі гарэлкі павінен быць роўны мінімальнаму дзённаму заробку, лічыць кіраўніцтва Руху «За Свабоду».

Актывісты Руху прапануюць шэраг захадаў па дэалкагалізацыі насельніцтва і антытытунёвыя меры, сярод якіх:

- Значнае павелічэнне акцызаў на алкаголь і цыгарэты (напрыклад, кошт бутэлькі гарэлкі мусіць быць роўны не меней за мінімальны дзённы заробак);
- Забарона продажу піва і моцнага алкаголю ад 22:00 вечара да 10:00 раніцы;
- Вынас продажу цыгарэт і алкаголю ў спецыялізаваныя крамы і шапікі;
- Поўная забарона рэкламы цыгарэт, піва і моцнага алкаголю ў СМІ і на білбордах, а таксама гандлёвых марак вытворцаў цыгарэт і алкаголю;
- Павелічэнне ўзроставага цэнзу на забарону продажу цыгарэт, піва і моцнага алкаголю асобам да 21 года;
- Забарона вырабу і продажу пладова-ягадных він («чарніла») на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Паводле рух.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Еш, пі, весяліся!

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Пакуль Чэмпіянат свету па хакеі яшчэ не скончыўся, але нашыя гандлёвыя кропкі ды іншыя зацікаўленыя асобы падводзяць папярэднія вынікі. І гэтыя вынікі надаюць аптымізму. Такі аптымізм іншым разам даходзіць нават да фанатызму, але тым не менш...**

Як паведамілі ў Галоўным упраўленні спажывецкага рынку (ГУСР) Мінгарвыканкама, замежныя госцейкі актыўна трацяць свае грошы ў беларускіх гандлёвых кропках. Таваразварот за 10 дзён працы гандлёвых пунктаў на дзвюх спартыўных арэнах, у фан-зонах і ў трох зонах гасціннасці чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску склаў 28,1 мільярда рублёў.

З 9 па 18 мая рэалізавана больш за 244,3 тысячы літраў піва, прададзена 16,5 тон шашлыку, больш за 34 тоны каўбасак і курыных крыльцаў. Такое ўражанне, што нашы госці на Чэмпіянат свету прыехалі з галоднага краю. За 10 дзён рэалізавана прадукцыі: у «Мінск-Арэне» — на 8,9 мільярда рублёў, прададзена піва 1 686 кегаў, ці 84,3 тысячы літраў; у «Чыжоўка-Арэне» — на 4,2 мільярда рублёў, прададзена піва 770 кегаў, ці 38,5 тысячы літраў; каля Палаца спорту — на 10,3 мільярда рублёў, прададзена піва больш чым 42,6 тысячы літараў, 11,9 тон шашлыку, сувеніраў рэалізавана на 437 мільёнаў рублёў; у «Студэнцкай вёсцы» — на 4,2 мільярда рублёў, прададзена піва каля 76,8 тысячы літраў, наведалі зону гасціннасці больш чым 68 тысяч чалавек; у раёне Мінскага лядовага палаца спорту — 0,5 мільярда рублёў, 2,1 тысячы літраў піва, сувеніраў на 19 мільёнаў рублёў.

Самай вялікай пляцоўкай, якая наведваецца найчасцей, стала зона гасціннасці каля Палаца спорту. Яе плошча складае 13 тысяч квадратных метраў, працуюць буйныя гандлёвыя прадпрыемствы з магутнай вытворчай базай, забяспечана больш чым 2 тысячы пасадачных месцаў, у абслугоўванні задзейнічана прыкладна 400 чалавек гандлёвага персаналу. Зона гасціннасці працуе да апошняга пакупніка, фактычна з 10 раніцы да 3–4 гадзін ночы. Рэалізацыя шырокага асартыменту прадукцыі ўласнай вытворчасці забяспечваецца ў пастаянным рэжыме: аладкі бульбяныя з мясам, дранікі, шашлык, каўбаскі і крыльцы грыль, сасіскі, блінчыкі, смажанка і інш. Завоз прадукцыі ажыццяўляецца ў начны час да 8 раніцы і пры неабходнасці — на працягу дня.

На памяць аб Мінску і чэмпіянаце свету госці набываюць у якасці сувеніраў часцей за ўсё матрошкі, магніты, вырабы з лёну, а таксама вырабы традыцыйных беларускіх мастацкіх рамёстваў: пляценне з лазы і саломы, каванне металу, ткацтва, вышыўка, бондарства, разьба па дрэве, апрацоўка каменя, скуры, выраб паштовак, лялек і інш.

У зоне гасціннасці «Студэнцкая вёска» ў сярэднім штодзённа рэалізуецца больш чым 300 кг дранікаў са смятанай, якія сталі хітом продаж. Акрамя таго, карыстаюцца попытам вушы свіныя марынаваныя, крыльцы і каўбаскі грыль, шашлык, бульба фры, морква і капуста марынаваныя. Да 12 гадзін дня ўсім ахвотным тут бясплатна прапаноўваецца кубак гарачага булёну (што вельмі карысна «пасля ўчорашняга»).

Пасля такіх лічбаў разумееш — беларусы сапраўды самая гасцінная нацыя. Мы здольныя ў выпадку чаго накарміць і напаіць увесь сусвет. Калі гэты сусвет, зразумела, да нас звернецца — толькі прыязджайце.

Але крыху больш сумна гэта выглядае, калі паглядзець на выдаткі. Бо стварэнне толькі адной фан-зоны, размешчанай побач з комплексам Мінск-Арэна, абышлося беларускім падаткаплацельшчыкам у 12 мільярдаў рублёў, паведаміў менеджар дырэкцыі чэмпіянату свету Пётр Рабухін. А такіх зонаў у нас — пяць штук.

Да таго ж лічба ў 28,1 мільярда рублёў, як казалася вышэй, — гэта лічба «таваразвароту», а не прыбытку. Так што, як бы нам ад гэткай радасці не надарвацца. Калі па выдатках і прыбытках «у нуль» выйдзем, ужо добра будзе, а калі і грошы нейкія заробім, выдатна.

Але такія папярэднія вынікі чэмпіянату натхнілі нашае кіраўніцтва на даволі смелыя заявы. Напрыклад, Аляксандр Лукашэнка прапанаваў пасля заканчэння хакейнага чэмпіянату пакінуць у некалькі скарочаным выглядзе працу фан-зон. «Думаю, і арганізацыі будуць зацікаўленыя ў падобным гандлі. Трэба стварыць такія ўмовы і захаваць гэта. Больш за тое, досвед Мінска павінен быць перанесены на іншыя буйныя гарады — вось вам і ўнутраны рынак», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Так што, магчыма, ва ўсіх буйных гарадах Беларусі з'явяцца афіцыйныя «зоны п'янства». Вось толькі прадавацца ў іх будзе выключна беларускае. Таму што ў той жа прамове Лукашэнка падтрымаў ідэю забароны на продаж імпартнага піва на час ЧС па хакеі, даручыўшы ў поўнай меры выкарыстаць гэта мерапрыемства для папулярызацыі беларускай прадукцыі. «Выкарыстоўвайце гэты момант з півам, каб людзі прывыкалі да беларускага», — заявіў ён.

У той жа час беларускае кіраўніцтва разбіраецца з дакладам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая прызнала Беларусь самай пітушчай нацыяй у свеце. Міністэрства аховы здароўя заявіла, што мы — не першыя ў свеце па спажыванні алкаголю, а толькі ўваходзім у «дваццатку» «краінаў-алкаголікаў».

Мінздароўя спасылаецца на афіцыйную статыстыку, паводле якой спажыванне алкаголю ў нас — 11,14 літра на душу насельніцтва, а ў параўнанні з 2012 годам ідзе зніжэнне спажывання на 11,2%, заявіў галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Іван Канаразаў.

Добрая спроба, Мінздароўя, але непераканаўчая. Па-першае, чыноўнік прыводзіць лічбы Белстату за 2012–2013 гады, а СААЗ апрылюднела аналіз дадзеных па 194 краінах свету за 2008–2010 год. Па-другое, у дадзеных СААЗ гаворка ідзе пра ўжыванне алкаголю асобамі, старэйшымі за 15 год, Канаразаў жа гаворыць пра «душу насельніцтва». То бок, улічвае нават немаўлятаў у люльках, што значна памяншае канчатковы «літровы» вынік. Калі адкінуць тых, каму ў Беларусі да 15 гадоў, то, падаецца, нацыянальная лічба спажывання алкаголю і дадзеныя СААЗ у 17,5 літраў будуць блізкія адно да аднаго.

У любым выпадку, нават лічба ў 11,14 літра на душу насельніцтва значна перавышае вызначаны той жа СААЗ «парог дэградацыі нацыі» ў 8 літраў алкаголю «на рыла». А мы пры гэтым планам развіваць і пашыраць «п'яныя зоны»!

Карацей, да ўсяго трэба падыходзіць без фанатызму і ідыятызму. А тое, вырашаць, па прыкладзе піва, забараніць у нас мабільныя тэлефоны альбо замежныя аўто... Толькі і застанецца, што піць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Мясніковіч



**Прэм'ер Беларусі не бачыць ніякіх падстаў для «звышвысокіх» працэнтных ставак па рублёвых укладах, патрабуючы ад Нацбанка іх кардынальнага зніжэння.**

«Сёння ў краіне няма ніякіх эканамічных падставаў падтрымліваць працэнтныя стаўкі па рублёвых інструментах на такім завышаным узроўні. Для бягучага чакання інфляцыі стаўкі ў 39–40% гадавых — гэта ненармальна», — заявіў Мясніковіч. «З улікам станоўчага сальда і чыстага прытоку валюты ў краіну трэба разрываць гэтую заганную практыку спекулятыўных працэнтных ставак», — лічыць прэм'ер.

Патрабаваць можна шмат, тым больш прэм'еру, аднак нічога з таго, чым абгрунтаваў зніжэнне ставак Мясніковіч, пакуль не назіраецца. Інфляцыя за 4 месяцы склала 6,6%, то бок каля 20% гадавой. Абяцаны Пуціным крэдыт у $2,5 мільярда для папаўнення ЗВР да нас яшчэ не дайшоў, каб казаць пра «чысты прыток валюты». А станоўчае знешнегандлёвае сальда зусім не азначае валютны прыбытак. Наадварот, баланс рахунку бягучых аперацый у нас — мінус $2 мільярды. Рэзкае зніжэнне «спекулятыўных» ставак па рублёвых дэпазітах у бягучай сітуацыі абернецца перасоўваннем грошай з рублёвых дэпазітаў у валютныя і чарговым фінансавым шокам аж да паўтору сцэнару 2011 года.

## Станіслаў Шушкевіч



**Былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч лічыць, што шукаць «адзінага кандыдата ад апазіцыі» на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года не мае сэнсу.**

Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю «Радыё Рацыя». Паводле яго слоў, не важна, ці будзе адзін кандыдат, ці будзе іх дзесяць, «выбары» і так пройдуць па спецыяльна распрацаваным сцэнары.

«Казаць аб адзіным заўчасна, таму што з таго, што адбываецца, я бачу, што выбараў па-ранейшаму не будзе. Будзе адзіны, але гэта ўсё роўна, што выкідваць усё ў смецце. Пазіцыя Цэнтрвыбаркама, гэтага брыдкага ўтварэння, не дазваляе чакаць, што ў нас могуць быць выбары — выбараў не будзе. Па гэтым пытанні падзелу наогул няма ніякага, усе за тое, каб змяніць рэжым. Але ёсць людзі, якія хочуць штосьці за гэта мець, вось яны могуць разважаць, абгрунтоўваць, пісаць», — заявіў Шушкевіч.

Лідары апазіцыі і людзі, якія імкнуцца нешта змяніць у краіне, пастаўлены на мяжу выжывання, ім трэба думаць, як пражыць, а не як памяняць уладу, падсумаваў Станіслаў Шушкевіч, які, дарэчы, зараз сам знаходзіцца ў шпіталі.

## Рэне Фазель



**Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея (ІІХФ) Рэне Фазель «вельмі задаволены» ўзроўнем арганізацыі чэмпіянату свету ў Мінску.**

«Мы проста ў захапленні. Такой запаўняльнасці на чэмпіянатах свету не было ніколі, — сказаў Фазель журналістам. — Канчатковы лічбы падаб'ем ужо пасля турніру, але я мяркую, што рэкорд наведвальнасці будзе пабіты. Атрымалася, што на чэмпіянаце свету ў Мінску гуляюць чатыры «хатнія» каманды. Акрамя каманды Беларусі, гэта зборныя Расіі, Латвіі, Славакіі, якія на кожнай гульні атрымліваюць вар'яцкую падтрымку. Наогул, публіка ў Мінску проста выдатная».

«Тое, што мы бачым цяпер, — гэта лепшы адказ тым, хто кажа, што не варта праводзіць чэмпіянаты свету кожны год. У Беларусі мы бачым сапраўднае свята, — дадаў Фазель. — У гэтым годзе ў Сочы прайшлі лепшыя зімовыя Алімпійскія гульні ў гісторыі, гэта была фантастыка, і я хачу сказаць, што цяпер у Мінска ёсць усе шанцы атрымаць званне гаспадара лепшага чэмпіянату свету ў гісторыі. Наведвальнасць матчаў і атмасфера вакол турніру найвыдатнейшыя».

Азбука паліталогіі

# Бытавыя гісторыі



Сяргей НІКАЛЮК

**Гісторыя не ведае ні аднаго прыкладу паспяховага развіцця якой-небудзь краіны ва ўмовах канфрантацыі з Захадам.**

Чарговую «Азбуку паліталогіі» я пачну не з цытавання класікаў паліталогіі, а з побытавых гісторый. Першая звязана з маёй сястрой. Яна жыве ў Пецярбургу. Я з ёй перыядычна размаўляю па скайпу. Палітыкай мая сястрыца не цікавіцца, і нашы размовы абмяжоўваюцца стандартным для пенсіянераў наборам тэмаў: дзеці, унукі, лецішча і ды падобнымі да іх.

Але калі чалавек не цікавіцца палітыкай, то палітыка пачынае цікавіцца чалавекам. У сакавіку сястра нечакана заявіла, што гатовая з аўтаматам у руках абараняць рускіх у Крыме.

Тут мне спатрэбіцца невялікі экскурс у гісторыю. Два гады таму, пасля смерці мужа, сястра вырашыла прадаць аўтамабіль. Яна знайшла па аб'яве ў газеце фірму, падпісала дамову і з дапамогай суседа адагнала на стаянку фірмы сваю новенькую «Хонду». Ужо праз тыдзень аўтамабіль быў прададзены, але грошай сястра так і не атрымала.

Думаю, чытач ужо здагадаўся, што яе банальна падманулі. Фірма пры гэтым працягвала працаваць, актыўна рэкламаваць у мясцовай прэсе свае паслугі. Спроба прыцягнуць дырэктара да адказнасці нічым не скончылася. Міліцыя заяву сястры далучыла да дзясяткаў аналагічных, але распачынаць крымінальную справу адмовілася — яна не знайшла складу злачынства.

Сястра звярнулася па дапамогу да аднаго сябра свайго нябожчыка-мужа, генерала КДБ у адстаўцы. Той праз сваіх калегаў высветліў, што гэты від «бізнэсу» курыруе ў Пецярбургу... міліцыя. Супрацоўнікі КДБ, як вядома, былымі не бываюць. Тым не менш вырашыць пытанне генерал у адстаўцы не змог.

А зараз самы час паспрабаваць адшукаць сувязь паміж жаданнем сястры-пенсіянеркі з аўтаматам у руках абараняць рускіх у Крыме і гісторыяй з аўтамабілем.

Хто падмануў сястру? Бандыты? Не, яе пакрыўдзіла родная дзяржава. Яна адмовілася выконваць адзін з галоўных сваіх абавязкаў ва ўмовах рынкавай эканомікі: выступаць гарантам кантрактаў. Пра гэту азбучную ісціну сястра не здагадвалася. Яе ўяўленне пра дзяржаву сфармавана тэлевізарам. Гэта з яго дапамогай дзяржава паказвае падданым ілжывыя мэты, адводзіць іх увагу ад рэальных праблем.

Другая гісторыя, у адрозненне ад першай, абышлася без дэтэктыўнай інтрыгі. Штогод 6 мая я віншую з днём нараджэння адну сваю знаёмую. Традыцыйнае мерапрыемства. Традыцыйныя госці. Традыцыйныя размовы. Але... як жа сёння без Украіны з яе фашыстамі і бандэраўцамі. Зразумела, дасталася і Захаду, які рыхтаваў у Польшчы і Літве баевікоў для Майдана.

Я тэлевізар не гляджу і з прадстаўнікамі самай шматлікай у краіне партыі («партыі тэлевізара») на асабістым узроўні кантактаў не падтрымліваю. Прафесійныя веды паліталогіі толькі ўзмацнілі ўзаемнае неразуменне. Я апынуўся чужым на свяце тэлегледачоў. Таму ўсе мае спробы данесці іншы пункт гледжання на падзеі ва Украіне апынуліся марнымі.

### Марыць не шкодна

За дзень нараджэння я заплаціў бяссонніцай. Усе шукаў аргументы, усё спрабаваў растлумачыць маці сваёй знаёмай ролю Захаду ў жыцці яе дачкі. Здавалася б, якія тут праблемы: школа — універсітэт (біяфак БДУ) — праца ў лабараторыі на заводзе медпрэпаратаў. Усё пералічанае прыйшло да нас з Захаду, як і практычна ўсе бытавыя прыбамбасы — ад туалетнай паперы да айфонаў.

Няма на свеце іншай сістэмы адукацыі, акрамя заходняй, няма іншай навукі і іншай масавай вытворчасці. І не важна, што сёння ў сусветныя лідары выходзіць Кітай, а яму на пяткі наступаюць Японія і Паўднёвая Карэя. Азіяцкія «тыгры» сталі «тыграмі» толькі пасля таго, як здолелі сваю традыцыйную культуру ўзбагаціць заходнімі дасягненнямі.

Марыць, зразумела, не шкодна. Можна, напрыклад, марыць пра тое, што «на шахматной доске геополитики в самое ближайшее время Евразийский экономический союз и Европейский союз станут примерно равновеликими партнерами». Можна сумяшчаць заявы пра рух «вперед по выбранному нами пути с гордо поднятой головой» з прапановай перавярнуць падчас руху «систему с головы на ноги». Можна верыць у мадэрнізацыю ад дзяржаўных прадпрыемстваў за кошт закупкі на Захадзе сучаснага абсталявання і ненавідзець пры гэтым вытворцаў абсталявання.

Нічога новага ў гэтым няма. Як тут ні прыгадаць персанаж байкі дзядулі Крылова, не здольны ўсвядоміць каузальную (прычынна-выніковую) сувязь паміж ураджаем жалудоў і станам каранёў дуба.

Між іншым, пра наяўнасць такога тыпу сувязяў савецкім людзям пастаянна нагадвала крылатае ленінскае выказванне: «Камуністам можна стаць толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва». На жаль, на практыцы камуністы гэтым выказваннем не кіраваліся. Сваю цікавасць да багаццяў, «выпрацаваных чалавецтвам», яны фармавалі па заяўках ваенна-прамысловага комплексу. У выніку на шостай частцы сушы была пабудавана дзяржава, якую федэральны канцлер ФРГ Гельмут Шміт ахрысціў «Верхняй Вольтай з ракетамі».




### Негатыўная салідарнасць

Якія шанцы на выжыванне ў «партыі тэлевізара» ў стагоддзе інтэрнэту? Мяркую, што яе лідарам у бліжэйшае дзесяцігоддзе няма пра што турбавацца. І не мае значэння, што 60% беларусаў рэгулярна карыстаюцца сусветнай павуцінай (НІСЭПД, сакавік 2014 года). Попыт, як вядома, нараджае прапанову. Шараговыя чальцы «партыі тэлевізара» прад'яўляюць попыт на безальтэрнатыўную інфармацыю. Дзяржаўныя тэлеканалы гэты попыт задавальняюць. Такая вось каузальная сувязь.

Можна прывесці каня да вадапою, але нельга прымусіць яго піць. Пра гэта неабходна памятаць тым, хто звязвае няўдачы беларускай апазіцыі з абмежаванасцю інфармацыйных рэсурсаў. Кожны, хто адчувае патрэбу ў альтэрнатыўнай інфармацыі, мае сёння магчымасць яе атрымліваць. Не выключана, што для гэтага давядзецца зрабіць некалькі дадатковых рухаў цела, але не больш за тое.

Прапаную вярнуцца ў 6 мая на дзень нараджэння маёй знаёмай. Здавалася б, з'яўленне носьбіта іншай інфармацыі павінна было выклікаць цікавасць у чальцоў «партыі тэлевізара». Але замест цікавасці нарадзілася агрэсія. Партыйцы самкнуўся шэрагі і сталі дружна адбівацца ад альтэрнатыўных інтэрпрэтацый вядомых ім фактаў. Факты ж невядомыя, г. зн. факты, з якім тэлебачанне іх не азнаёміла, яны проста ігнаравалі.

Агрэсію нараджае не сіла. Агрэсія спараджаецца ўбогасцю. Тое, што я назіраў на мікраўзроўні, расійскія сацыёлагі фіксуюць сёння ў маштабах грамадства. «Падаўленне сацыяльнай дынамікі ў краіне на фоне нарастаючай самаізаляцыі і карупцыі ўлады, — адзначае сацыёлаг «Лявада-Цэнтра» Барыс Дубін, — вядзе да ўзмацнення ахоўных механізмаў: пошуку ворага, ксенафобіі і антызаходніцтва».

Агульны вораг — крыніца салідарнасці, але салідарнасці негатыўнай. Грамадству, аснову якога складае «чалавек савецкі», прасцей перажыць голад, чым багацце. Няздольны такі тып грамадства і адаптавацца да працяглага міру. Вось тут вельмі дарэчы аказваюцца фашысты і бандэраўцы. Лепшай панацэяй для барацьбы з уласным комплексамі, мабыць, і не прыдумаць.

### «Суровы, жорсткі, але справядлівы»

Грамадства, чыя згуртаванасць фармуецца механізмамі негатыўнай салідарнасці, адказвае на выклікі дэградацыяй. Па прыклады далёка хадзіць не трэба. Паводле Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ), Беларусь у 2012 годзе выйшла ў сусветныя лідары па колькасці спажытага алкаголю — 17,5 літра чыстага спірту на чалавека ў год. У параўнанні з 2003–2005 гадамі паказчык вырас амаль на 2,5 літра.

8 літраў чыстага спірту на душу насельніцтва — гэта тая мяжа, за якой пачынаюцца незваротныя наступствы: хваробы, нараджэнне хворых дзяцей, страты ў эканоміцы, культуры, сацыяльнай сферы. А мы памятаем, што Беларусь ідзе «вперед по выбранному нами пути с гордо поднятой головой». Як з такой нагоды не выпіць! У якой яшчэ краіне сярэднестатыстычны мужчына выпівае па бутэльцы гарэлкі раз на два з паловай дні!

Інфармацыю СААЗ дапоўніў 15 мая начальнік упраўлення прафілактыкі Міністэрства ўнутраных спраў Алег Каразей. Прывяду ключавую цытату: «Паводле нашай статыстыкі, звыш 85% забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджанняў у побыце наносяцца ў стане алкагольнага ап'янення, у Гродзенскай і Магілёўскай вобласці — 100% забойстваў здзяйсняецца пад уплывам алкаголю».

Праблема дэградацыі грамадства адзіным палітыкам (АП) не ўсведамляецца. Усё, што мне ўдалося адшукаць у Пасланні–2015, — гэта развагі аб негатыўнай ацэнцы беларусаў да рынку ў пачатку 90-х, таму выбар «нашай мадэлі» не быў памылкай, а адзіна магчымым «у тых умовах». Далей ідзе выдатны пасаж: «Заслуга власти и мудрость народа состояли в том, что мы не позволили увлечь себя теориями — правильными применительно к Западу, но тупиковыми применительно к нашей зарождающейся национальной экономике».

Хто б спрачаўся, да рынку і дэмакратыі кожны народ ідзе сваёй дарогай. Але тое, што АП называе «нашай мадэллю» ні да рынку, ні да дэмакратыі ніякага дачынення не мае. Таму «новыя акцэнты» ў эканамічнай палітыцы ў чарговы раз вырашана звесці да ўдасканалення сістэмы кіравання. І ў якасці першага кроку АП прапанаваў усталяваць «диктат экономической эффективности» за кошт радыкальнага перагляду паказчыкаў і справаздачнасці.

У якасці другога кроку ён прапанаваў ад перагляду паказчыка справаздачнасці... адмовіцца: «Ну показатели вряд ли пересмотришь. Как можно изменить такой показатель эффективности, как рентабельность или прибыль? Они как считались, так, наверное, и будут считаться. Что-то получил, затраты отбросил — получил прибыль, потом — чистую прибыль, за вычетом налогов и так далее».

З чалавекам, які мае вышэйшую эканамічную адукацыю, я б не рэкамендаваў спрачацца. Вось толькі пасля адкідвання выдаткаў можа атрымацца не прыбытак, а страты. Але для кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў, няздольных атрымліваць патрэбны вынік пасля адкідвання выдаткаў, АП распарадзіўся падрыхтаваць «суровый, жесткий, но справедливый декрет».

У мяне ёсць асцярога, што пасля яго прыняцця СААЗ перагледзіць паказчык спажывання чыстага алкаголю на душу насельніцтва ў Беларусі ў бок павышэння.

# Ён бы з’еў, ды хто ж яму дасць…

Сяргей ПУЛЬША



**На фоне расійска-ўкраінскага канфлікту наша паўднёвая суседка насцярожана ставіцца да Беларусі. Канешне, Лукашэнка заверыў кіраўніцтва Украіны, што з нашага боку ёй нішто не пагражае. Але галасы недаверу ўсё ж гучаць.**

Напрыклад, былы кіраўнік краіны Станіслаў Шушкевіч заклікаў украінскае кіраўніцтва Аляксандру Рыгоравічу не верыць, і «порах трымаць сухім».

«Калі Расія пойдзе на адкрытае ўзброенае супрацьстаянне з Украінай, Беларусь дакладна будзе на баку Крамля, таму што Лукашэнка — раб Пуціна і самастойна нічога не вырашае. Мне вельмі шкада, што Турчынаў паверыў Лукашэнку. Дарма ён гэта зрабіў. Лукашэнка хлусіў ад нараджэння і па гэты дзень», — заявіў Станіслаў Шушкевіч у інтэрв’ю ўкраінскаму інтэрнэт-рэсурсу Gordonua.com.

Канешне, тое, што «Беларусь будзе на баку Крамля», наўрад ці выклікае нейкія сумневы. Усё ж нашая краіна ўваходзіць у вайсковы блок АДКБ разам з Расіяй, і мае ў ім пэўныя абавязальніцтвы. Але «быць на баку Крамля» таксама можна па-рознаму: ад актыўнага ўдзелу ў баявых дзеяннях з прымяненнем войска, да ціхага сабатажу прынятых у Крамлі рашэнняў пры вонкавай іх «падтрымцы».

Ці можа пагражаць альбо пагражае беларускае войска Украіне? Наўрад ці.

Найперш, што тычыцца нашых абавязацельстваў па ваенным блоку АДКБ. Ваенны эксперт Аляксандр Алесін лічыць, што АДКБ да Украіны, і, адпаведна, да нашых нейкіх абавязальніцтваў, не мае дачынення. «Справа ў тым, што мэты і задачы АДКБ датычныя выключна краінаў, якія гэтае пагадненне падпісалі. Тэрыторый тых краін, якія падпісалі пагадненне. Што тычыцца аперацый у трэціх краінах, кшталту Украіны, то мы не абавязаны ў гэтым выпадку дапамагаць Расіі чымсьці. Зона адказнасці гэтай арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы распаўсюджваецца толькі на тэрыторыю яе чалцоў. Калі нейкая краіна праводзіць аперацыю па-за межамі АДКБ, то яна сама нясе адказнасць», — мяркуе Алесін.

Тое ж самае тычыцца і створаных у 2009 годзе Калектыўных сіл аператыўнага рэагавання АДКБ. Згодна з падпісаным дакументам, Калектыўныя сілы аператыўнага рэагавання будуць выкарыстоўвацца для адбіцця ваеннай агрэсіі, правядзення спецыяльных аперацый па барацьбе з міжнародным тэрарызмам і экстрэмізмам, транснацыянальнай арганізаванай злачыннасцю, наркатрафікам, а таксама для ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый. То бок, гэта не наступальныя сілы.

**Сама канцэпцыя беларускага войска амаль выключае дзейнасць у рэчышчы нейкіх наступальных аперацый**

І таму дзейнасць АДКБ зараз заключаецца, збольшага, у барацьбе з наркатрафікам з неспакойнага Афганістану. Цікавы факт яшчэ і ў тым, што да гэтага часу АДКБ як адзіны ваенна-палітычны саюз ніводнага разу не ўдзельнічаў у рэальных вайсковых аперацыях.

Такім чынам, Расія не здолее скарыстаць АДКБ у выніку нейкага «даху», пад якім бы быў магчымы ўвод расійскіх войскаў на тэрыторыю Украіны з Беларусі.

Галоўная небяспека — у тым, што Расія можа скарыстаць тэрыторыю Беларусі для «транзіту» сваіх войскаў ва Украіну. Але і гэты варыянт Алесін лічыць малаверагодным. Наяўныя ваенныя базы Расіі ў Беларусі для гэтых мэтаў не падыходзяць. Найперш расійскія ваенныя аб’екты ў «сінявокай» — гэта станцыя радыёлакацыі пад Ганцавічамі і пункт сувязі флоту ў Вілейцы. Яшчэ ствараемая расійская авіябаза таксама наўрад ці падыходзіць для раскватаравання нейкіх буйных сухапутных падраздзяленняў расійскай арміі. А ўдар з паветра з боку Беларусі расійскімі ўдарнымі самалётамі па Украіне магчымы хіба толькі ў выпадку паўнавартаснага ваеннага канфлікту. Іначай кажучы — натуральнай вайны паміж Расіяй і Украінай. У гэтым выпадку Беларусь можа дазволіць выкарыстоўваць свае аэрадромы транзітам для перакідвання расійскіх вайскоўцаў на тэрыторыю Украіны. «Я такой магчымасці не выключаю, але лічу, што на 99% гэта немагчыма», — лічыць Алесін.

Што ж тычыцца беларускага войска, то, яно «не пад тое заточанае». Сама канцэпцыя беларускага войска амаль выключае дзейнасць у рэчышчы нейкіх наступальных аперацый (а гіпатэтычны сцэнар падтрымкі Расіі беларускім войскам — гэта наступальная аперацыя на тэрыторыю Украіны). Як казаў пра гэта Аляксандр Лукашэнка свайму цёзцы Турчынаву, у выпадку ўварвання пачынаюць дзейнічаць сілы неадкладнага рэагавання, потым — сілы хуткага рэагавання, потым — войска і мабілізацыя. Гэтая канцэпцыя скіраваная на стрымліванне верагоднага праціўніка і нанясенне яму «несумяшчальнага ўрону», каб ён, распрацоўваючы планы анексіі Беларусі, тройчы б падумаў, чаго яму гэта будзе каштаваць і ці вартая вычынка аўчынка.

Амаль адзіная частка, якая здольная весці аперацыі на тэрыторыі праціўніка — гэта мар’інагорскі спецназ, які ствараўся на базе спецназу ГРУ СССР. Менавіта ў ягоныя задачы ўваходзілі дзеянні на тэрыторыі ворага. У астатнім жа беларускае войска — не наступальнае па сваёй сутнасці.

Стваральнік праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў увогуле скептычна ставіцца да баяздольнасці беларускага войска. Найперш таму, што, па ягоных словах, войска для сённяшніх уладаў — гэта атрыбут, а не прылада. «Ёсць у суседзяў армія? Ну і мы ж не з лесу выйшлі — таксама будзем з арміяй. І грошай дамо нават. Колькі не шкада. Вось гэта «не шкада» ўжо доўжыцца трэці дзясятак гадоў — фінансаванне па рэштковым прынцыпе. Прычым справа нават не ў эканамічных магчымасцях дзяржавы — справа ў стаўленні. У нас і грамадства, і ўлада дзіўна аднадушныя ў дачыненні да ваенных, у прыватнасці, і да людзей у пагонах наогул: іх успрымаюць выключна як утрыманцаў. Пры гэтым словы гаворыцца прыгожыя. Такое крывадушнае стаўленне падрывае галоўны абаронны рэсурс — маральны дух ваенных», — лічыць Паротнікаў.

Да таго ж, вельмі складана будзе прымусіць салдатаў адразу паверыць, што ўкраінцы ім — ворагі, у якіх трэба страляць. Яны ж заўсёды былі братамі. І патлумачыць, чаму былыя браты раптам сталі ворагамі, у адзін момант не атрымаецца.

Так што ў беларускага войска і вайскоўцаў для нейкіх дзеянняў у дачыненні да Украіны не існуе ні магчымасцяў, ні, галоўнае, жадання штосьці рабіць. А без такога жадання, як бы Масква не «націскала» на Беларусь, яна наўрад ці нешта выцісне. Хутчэй, адбудзецца сабатаж, чым падтрымка Крамля справаю.

## КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Манеўры



**Вядома, што перад вайной часта пачынаюць манеўры, каб прыхаваць падрыхтоўку да мабілізацыі войска, працягам якой можа стаць вайна. Так было, а ці будзе так з манеўрамі на расійска-ўкраінскай мяжы?**

З гэтай нагоды савецкія военачальнікі любілі спасылацца на досвед нямецкага генерала Мольтке, які лічыў, што калі аддалі загад аб мабілізацыі, можна ісці спаць. Бо машына запрацуе сама. Адзначым толькі, што Мольтке як военачальнік зрабіў некаторыя прынцыповых памылак. Але мабілізацыю правёў бездакорна.

А вось з мабілізацыяй Чырвонай Арміі, як сведчыць гісторыя, у савецкіх правадыроў звычайна не атрымоўвалася. І даводзілася ім дзеля задавальнення сваіх палітычных амбіцый распачынаць малыя войны непадрыхтаванымі і аплачваць перамогу мільёнамі ахвяр.

У пасляваенны час Савецкая Армія знаходзілася ў перманентным стане розных мабілізацыйных практыкаванняў. Хто служыў тэрміновую ў СА, звычайна трапляў на тое ці іншае маштабнае вучэнне. Калі не «Днепр», то «Дзвіна», калі не «Нёман», то «Дунай».

Нават натаўскія генералы, што пільна сачылі за гэтай справай, мусілі прызнаць — савецкае войска нарэшце ваяваць навучылася. Адны з маштабных манеўраў таго часу, пад красамоўнай назвай «Захад–81», рыхтаваў генерал Уладзімір Лобаў. Той самы, якога сёння, нягледзячы на яго далёка за 80 гадкоў узрост, аднавілі на службе ў генштабе галоўнакамандуючы расійскай арміі Пуцін.

У ваенный дэманстрацыі «Захад–81» удзельнічалі амаль усе вайсковыя структуры, процьма тэхнікі і найноўшых узбраенняў: некалькі соцень самалётаў і гелікоптэраў, каля 1000 гармат, больш 2000 танкаў, некалькі тысяч БПМ. Не толькі савецкія маршалы і замежныя сацыялістычныя, але і натаўскія генералы былі ўражаны. Яны паверылі, што калі Саветы рушаць на Захад, то праз два тыдні будуць ля Ла-Манша.

Але рушыць вайной на Захад напачатку 1980-х ужо было немагчыма. Моцы не хапала: СССР амаль адсутнічаў у сусветнай эканоміцы. А вось крыху пазней, дзякуючы рэзкаму падвышэнню здабычы прыроднага газу, СССР пачаў прарывацца ў Еўропу. Экспарт «блакітнага паліва» павялічылася за 10 гадоў у 35 разоў. Савецкі Саюз атрымаў магчымасць зарабляць валюту і набываць сучасныя тэхніку і тэхналогіі. Новыя магчымасці хутка задаволілі патрэбы сацыялістычнай інтэграцыі ў рамках СЭУ, і змушалі да пашырэння рынку. А рынак быў у капіталістычнай Еўропе. СССР атрымліваў ёмісты рынак, на якім можна было збіраць велізарныя для сябе валютныя барышы.

Карацей, калі распачаць вайну, то пачынаць давялося б са сваіх партнёраў, з удару па сваіх будучых камунікацыях. Гэта значыць, па саміх сабе.

Ёсць такая гульня — бі чужых, каб свае баяліся.

Сёння іншы раз гучаць меркаванні, што Расія прыдумала нейкую новую вайну, нейкія сучасныя, агідныя падыходы і тэхналогіі. Гэта памылковыя меркаванні. Усе палітычныя хітрыкі ўжо даўно прыдуманы. Раней на дапамогу з-пад царскай апалы клікалі Суворава, а зараз аднавілі на службе ў генштабе Уладзіміра Лобава, колішняга «практыка танкавых кліннеяў», манеўравага майстра бліцкрыга, на які здольны рускі воін, калі яго своечасова кормяць і падвозяць салярку. Вядома ж, гразі танкі не баяцца…



Тым больш, што пад ружжо паставілі такога састарэлага ястраба, як генерал Лобаў. Людзі палохаюцца — не было б вайны!? Адкажам адказна — не будзе. Бо расійскія камунікацыі не заканчваюцца на мяжы з Еўропай, па вялікім рахунку яны там пачынаюцца. Бо толькі там газ і нафтапрадукты становяцца таварам, ад продажу якога Расія жыве. Іншых спосабаў і інструментаў у яе няма.

Нават з Украінай нельга ваяваць. Папалохаць, папсаваць нервы, пагандлявацца з коштамі на газ, з крэдытамі і даўгамі, забраць сабе якія каштоўныя дробязі — гэта з задавальненнем. Як кажа Пуцін, за незалежнасць Украіне трэба плаціць. І вызначае плату.

TV

## 31 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.30** Залатая калекцыя савецкага кінематографа. «Папялушка» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.25** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы з Беларусі».
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.15** Меладрама «Шчасце ёсць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Рамантычная камедыя «Нянька па выкліку» (ЗША).
**00.00** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Цырк. З рызыкай для жыцця.
**12.20** Мастацкі фільм «Ганна і кароль».
**15.00** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Канцэрт да Дня абароны дзяцей.
**17.35** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.25** Мастацкі фільм «Каханне ў вялікім горадзе».
**20.00** Контуры.
**21.05** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**23.20** Мастацкі фільм «Пекла».
**01.20** Бокс. Бой за званне чэмпіёна свету.

### СТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.55** Фільм «Залаты компас». ЗША - Вялікабрытанія, 2007г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.20** Фільм «Корцік». Беларусьфільм, 1973г. 2-я і 3-я серыі.



**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** СТБ прадстаўляе: Міжнародны музычны праект «Дзеці - гэта ХораШоў». Фінал.
**22.00** Фільм «Ужываныя львы». ЗША, 2003г.
**00.05** Фільм «Догвіль». Данія - Швецыя - Вялікабрытанія - Францыя - Германія, 2003г.

### Беларусь 2

**07.25** Фільм-казка «Прыгоды Бураціна» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**09.40** Заўтра - гэта мы!
**10.10** Тэлебарометр.
**10.20** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.15** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне» (Расія). Заключны выпуск.
**14.25** Аўтабатл.
**15.00** Стыль-бюро.
**15.35** Крымінальны баявік «Бой з ценем-3: Апошні раўнд» (Расія).
**17.55** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** КЕНО.
**21.10** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**00.00** Баявік «Ніколі не здавайся» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00, 10.55, 16.20, 21.05, 00.40** «Калейдаскоп».
**08.10** Сусветнае кіно. «Дама з камеліямі».
**09.55, 17.15** «Размаўляем па-беларуску».
**10.00** «Жыццё і творчасць Макса Лорэнца». Дакументальны фільм пра знакамітага тэнара.
**11.05** Дзіцячы фільм. «Пітэр Пэн». Паводле аповесці Дж.Бары.
**12.45** «Одры Хёпберн. Магія стылю». Дакументальны фільм.
**13.35** М.Глінка. Опера «Іван Сусанін». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**16.30** «Наперад у мінулае».
**17.00** «Краіна лясоў і азёраў». Дакументальны фільм.
**17.20** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». Паводле рамана Барыса Акуніна. 5-я і 6-я серыі.
**18.50, 22.45** «Культпрасвет».
**19.15** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». Паводле рамана Барыса Акуніна. 7-я і 8-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Вечар памяці тэлежурналіста Аляксандра Чуланава».
**23.10** Ж.Б.Мальер. «Тарцюф». Спектакль Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** Таямнічая Расія».
**14.10** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**16.00** Сёння.
**16.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**18.00** «І зноў добры дзень!».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Мастацкі фільм «Камуналка».
**21.35** Фільм «Чалавек з ніадкуль».
**23.45** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 6 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**09.25** Без рэтушы: «Урок любові Джанкарлё Боні», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.05** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**10.40** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**11.20** «Сонечная дзіда», серыял: 2 серыя.
**11.50** «Мая зямля», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Марока.
**13.15** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»»: ч. 2.
**14.20** «Дэфект», тэлесерыял: 8 серыя.
**15.15** «Сыгнет падману», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**16.40** «Горад з Мора», серыял: 4 серыя.
**17.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.15** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.20** Дакументальная гадзіна: «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дакументальны фільм, 2009 г., Францыя–Расія.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Хор», маст. фільм, 2004 г., Францыя–Швейцарыя.
**22.50** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Таццяна Арцімовіч.
**23.20** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Всего ______

Кассир



**На думку некаторых палітолагаў, сваім уздымам Корвін-Міке абавязаны з'яўленню новай генерацыі выбаршчыкаў. Гэта маладыя людзі, якія выраслі ва ўмовах дэмакратыі і не маюць ілюзій наконт таго, што іх голас можа змяніць цяперашнюю палітычную сістэму, якая ў Польшчы, нягледзячы на крызіс, вельмі стабільная**

# Польскі Жырыноўскі

Алег НОВІКАЎ

**Адрадзіць у Польшчы манархію,ператварыць будынак Еўрапейскай камісіі ў бардэль, пакончыць з усеагульным выбарчым правам. Януш Корвін-Міке, палітык, які ідзе на еўравыбары з падобнай праграмай, мае някепскія шансы на перамогу.**

Калі нічога не зменіцца, то ўжо на наступным тыдні Еўрапейскі парламент папоўніцца дэпутатамі ад партыі Кангрэс новых правых (KNP), чый лідар агучвае згаданыя вышэй лозунгі. Адпаведна апошнім апытанням, рэйтынг KNP — 4–6 працэнтаў, што дазваляе Янушу, якому, дарэчы, 72 гады, аптымістычна глядзець у будучыню. Нават калі 5 працэнтаў, неабходных для праходу ў Еўрапарламент, ён не атрымае, усім зразумела, што на палітычным полі польскі Жырыноўскі (так яго празвалі ў прэсе) на нейкі час застанецца.

З'яўленне KNP у топах самых папулярных польскіх партый можна лічыць і сенсацыяй, і лагічнай з'явай. Еўраскептыцызм даўно быў уласцівы польскім палітыкам. Аднак ніхто ніколі не думаў, што еўраскептыцызм у Польшчы будзе мець такі фармат. У адрозненні ад еўраскептыкаў іншых краін Еўропы, еўраскептыцызм Корвіна-Міке замешаны на агрэсіўнай і правакацыйнай рыторыцы, што робіць яго чымсьці падобным на расійскага Уладзіміра Жырыноўскага.

Жырыноўскага і Корвіна-Міке аб'ядноўвае не толькі стыль, аднак і агульныя погляды, напрыклад, на ўкраінскі крызіс. Лідар KNP згодны з Жырыноўскім наконт таго, што баевікоў Майдану рыхтавалі ў Польшчы. Ён лічыць Януковіча легальным прэзідэнтам і падтрымлівае анексію Крыму. Палітык таксама падзяляе нейкія тэзісы афіцыйнай расійскай гістарыяграфіі. Напрыклад, лічыць Варшаўскае паўстанне 1944 года «праявай крытынізму». З гэтай нагоды «Gazeta Wyborcza» піша, што з'яўленне Корвіна-Міке з яго прапуцінскімі настроямі ў еўрапейскім



парламенце было б рэалізацыяй самых буйных фантазій расійскага пасольства ў Варшаве.

Цікава, што хаця ў часы савецкай Польшчы Корвін-Міке быў сярод наменклатуры, палякі яго ведаюць як шалёнага антыкамуніста. Гэта ён на пачатку 1990-х гадоў праштурхнуў такі жорсткі закон аб люстрацыях, што ўрад у выніку падаў у адстаўку, а сам парламент прыйшлося распусціць. Пасля гэтага Корвін-Міке спрабаваў беспаспяхова балатавацца ў прэзідэнты, або шукаў месца пад сонцам у правых партыях. Прыкладна пяць год таму ён скалаціў той самы KNP, на які доўгі час ніхто не звяртаў увагі.

Але прыкладна з сакавіка сацыёлагі фіксуюць інтарэс палякаў да яго персоны. Часам гэта насіла кур'ёзны характар. Так, у адной са школ вучні калектыўна адмовіліся глядзець фільм пра катастрофу пад Смаленскам, надаўшы перавагу фільму пра Корвіна-Міке.

На думку некаторых палітолагаў, сваім уздымам Корвін-Міке абавязаны з'яўленню новай генерацыі выбаршчыкаў. Гэта маладыя людзі, якія выраслі ва ўмовах дэмакратыі і не маюць ілюзій наконт таго, што іх голас можа змяніць цяперашнюю палітычную сістэму, якая ў Польшчы, нягледзячы на крызіс, вельмі стабільная.

Выбары для моладзі — хутчэй правакацыя. Корвін-Міке, які лічыць, што гітлераўская падатковая сістэма была лепшай за еўрапейскую, а ўсе цяперашнія геі ў Польшчы — штучна імпартаваныя, пасуе такому запыту на палітычны экстрым. Не дарма Корвін-Міке вельмі папулярны ў інтэрнэце, дзе галоўны карыстальнік — моладзь. У яго, дарэчы, самы папулярны блог у Польшчы. У групе выбаршчыкаў ва ўзросце 17–24 гады Корвін-Міке мае падтрымку больш за 50 працэнтаў рэспандэнтаў.

Дадатковым фактарам галасаваць за Корвіна-Міке стаў крызіс нядаўніх куміраў маладых палякаў. Апошнім часам моладзь расчаравалася ў іншым скандальным палітыку — Янушы Палікоце. Раней Палікот здолеў прыцягнуць да сябе ўвагу моладзі абяцанкамі легалізаваць марыхуану і зменшыць ролю Касцёла ў польскім соцыуме. Пасля таго, як структура Палікота прайшла ў Сейм і пачалася парламенцкая руціна, Палікот паступова страціў імідж разбуральніка сістэмы.

Цікава, што ў большасці за Корвіна-Міке галасуюць не левыя, а правыя. Акрамя моладзі ў сацыяльнай групе прыхільнікаў Корвіна-Міке знаходзяцца дробныя бізнэсоўцы. Па словах сацыёлагаў, гэта катэгорыя расчаравалася ў жыцці і гатовая галасаваць за нейкую радыкальную партыю, каб толькі змяніць свет. Ім падабаюцца пафасныя маналогі Корвіна-Міке аб тым, што ва ўсім вінаватыя дзяржава і еўрапейскія бюракраты.

Праўда, апошнім часам Корвін-Міке нажыў сабе ворагаў не толькі на правым флангу. Не так даўно Корвін-Міке шакаваў палякаў сваімі поглядамі на праблему сэксуальных злачынстваў. На пытанне вядучага аднаго з тэлешоў, што ён думае пра згвалтаванне жанчын, палітык заявіў: «Што значыць згвалтаванні? Жанчына заўсёды робіць нейкі супраціў. Хіба не?» На выхадзе атрымаўся мегаскандал. Прэм'ер Дональд Туск нават палічыў выразы лідара KNP «злачынствам». Туск заявіў, што яго місія — зрабіць усё, каб Корвін-Міке прайграў выбары.

Дарэчы, дзякуючы скандальнай постаці Корвіна-Міке інтарэс да Еўравыбараў у Польшчы яўна вырас.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Шантаж атрымаўся. Расія з 2015 года пачне адмену нафтавых мыт для Беларусі. Гэта дазволіць ёй залічаць у свой бюджэт даходы ад экспарту нафтапрадуктаў, выраблены з расійскай нафты. За кошт гэтага Мінск можа атрымаць у наступным годзе прыкладна 1,5 мільярда долараў. Як растлумачыў беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, на працягу двух гадоў мыты будуць зняты цалкам. Некалькі гадоў таму РФ увяла мыты на пастаўку нафты ў Беларусь, якая раней атрымлівала танную сыравіну, перапрацоўвала яе і прадавала за мяжу. Такім чынам, Расія субсідавала беларускую эканоміку. Але 29 мая 2014 года РФ, Казахстан і Беларусь павінны падпісаць дамову аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза. У пачатку бягучага месяца стала вядома, што Мінск можа байкатаваць падпісанне, калі не будзе задаволены шэраг яго ўмоў. Адной з іх і стала адмена мытаў.

**«Профиль» (Расія)**

Па сутнасці, за тое, што зараз адбываецца з беларускім грамадствам у плане алкагалізму, адказныя ўлады. З аднаго боку, дзяржава прапагандуе алкаголь, парушаючы дзеючае заканадаўства. Між тым, паводле ацэнак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, мяжа, за якой пачынаецца дэградацыя нацыі, складае 8 літраў чыстага спірту на кожнага жыхара краіны ад 15 гадоў і старэй. Гэта значыць, беларусы ўжо ў два разы перавысілі бяспечны ўзровень. Непрыемны рэйтынг быў абнародаваны ў самы разгар сусветнага першынства па хакеі, якое праходзіць цяпер у Мінску. Беларускі кіраўнік пакуль не казаў пра народнае п'янства. Цяпер яго хвалюе, у першую чаргу, далейшы лёс беларускай зборнай на чэмпіянаце свету.

**«RFI» (Францыя)**

Апошнім часам эксперты сталі казаць, што акцыя па ўціску прадпрымальнікаў — вынік лабісцкіх дзеянняў буйных гандлёвых сетак. Ідзе перадзел рынку рознічнага гандлю на карысць буйнога бізнэсу. Гандлёвыя цэнтры ў Беларусі ў апошні час з'яўляюцца як грыбы пасля дажджу і належаць, як правіла, «прыдворным бізнэсмэнам». Эксперты кажуць пра тое, што і ў дадзеным выпадку дзяржаўны падыход саступіў пазіцыі меснічкай. Калі прадпрымальнікі будуць пакідаць свае гандлёвыя месцы ў сувязі з немагчымасцю працаваць, дзяржава страціць больш, чым разлічвае атрымаць падаткаў ад чаканага пашырэння дзейнасці буйных гандлёвых сетак. А вось уладальнікі гандлёвых сетак паспеюць пакласці прыбыткі у кішэню.

**«Независимая Газета» (Расія)**

«Збіранне земляў» таксама патрабуе немалых рэсурсаў. Тая ж Беларусь абыходзіцца ў капеечку: толькі ў 2012 годзе 19% яе ВУП забяспечвалася за кошт непрамых трансфертаў Расіі на агульную суму ў 11,5 мільярда долараў. А там усяго 9 мільёнаў чалавек насельніцтва, прычым вельмі пакорлівага! І яе нельга запісаць сабе ў свежыя трафеі, паколькі Лукашэнка валадарыць з 1996-га і заўсёды быў васалам — часам свавольным, але ў цэлым лаяльным. Наша краіна ў пяць разоў большая па насельніцтву, чым Беларусь, і куды менш рахманая, прычым далёка не толькі на Захадзе. Ды і эліта ў паўночных суседзяў не занадта прагная па нашых мерках, ці то дзякуючы блізкасці да балтыйскай Літвы, ці то ў выніку таго, што партнаменклатура была ў свой час сфармавана Пятром Машэрам з лідараў партызанскага руху (пераважна сельскай інтэлігенцыі), а не з самых бедных сялян, як ва Украіне.

**«Дзеркало Тижня» (Украіна)**

Расія зробіць усё магчымае, каб не дапусціць пераходу Беларусі і Украіны пад заходні ўплыў. Зараз Расіі не трэба шмат рабіць, бо яна валодае Беларуссю, але з Беларусі яна можа праецыраваць выкарыстанне сілы супраць Польшчы і іншых суседзяў, калі ёй дазволяць. Гэта важны элемент расійскай стратэгіі.

**«Экономические Изветия» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Татары ўсіх краін, яднайцеся!



XI курултай Усетатарскага грамадскага цэнтра (самая буйная татарская нацыянальная арганізацыя ў Расіі), які адбыўся на днях, прыняў рашэнне правесці рэферэндум, на які павінна быць пастаўлена пытанне аб далучэнні часткі тэрыторый Башкірыі з татарскім насельніцтвам да рэспублікі Татарстан. Па дадзеных Усерасійскага перапісу насельніцтва 2010 года, у Башкірыі пражывае больш за мільён татараў, што складае амаль чвэрць усяго насельніцтва рэспублікі. У асноўным татары расселены ў паўночна-заходняй частцы рэгіёну. Як адзначылі ўдзельнікі курултая, башкірскія татары, колькасць якіх роўная з колькасцю татараў у самым Татарстане, у Башкірыі не карыстаюцца «практычна ніякай дзяржаўнай ці іншай падтрымкай свайго нацыянальнага развіцця». Напрыклад, ім адмаўляюць у праве надаць татарскай мове статус афіцыйнай. Увогуле, татарскія нацыяналісты не ў першы раз выступаюць супраць башкірскіх уладаў, абвяшчаючы іх прыгнятальнікамі. Адзначым, што цяперашняе абвастрэнне «татарскага пытання» ў Башкірыі ўсе палітолагі звязваюць з выступамі крымскіх татараў, якія патрабуюць прадастаўлення Крыму статусу нацыянальнай аўтаноміі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. Забіты кіраўнік аховы прэзідэнта Мадуры



У венесуэльскай сталіцы невядомымі застрэлены кіраўнік службы аховы прэзідэнта Марка Картэс, якому, дарэчы, было ўсяго 29 гадоў. Галоўная версія забойства, безумоўна, звязаная з цяперашняй канфрантацыяй паміж рэжымам прэзідэнта Мадуры і дэмакратычнай апазіцыяй. Супрацьстаянне даўно выйшла за рамкі мірнага фармату. Бакі ахвотна пускаюць у ход зброю. Усе звяртаюць увагу на тое, што роўна за тыдзень да забойства Картэса ў амерыканскай Фларыдзе адбылася падобная гісторыя. Невядомымі быў забіты адзін з каардынатараў венесуэльскай апазіцыі ў ЗША, які, быццам, быў пасярэднікам паміж праціўнікамі Мадуры і ЦРУ. Магчыма, забойства Картэса — помста. Аднак фігуруе і іншая версія. Быццам, за знішчэннем Картэса стаяць прыхільнікі Уга Чавеса. Як вядома, Картэс 6 гадоў працаваў у службе аховы Чавеса. Па папулярнай сярод чавістаў легендзе, Картэс быў нейкім чынам звязаны са змовай супраць Чавеса і, магчыма, цяпер яго фанаты адпомсцілі за смерць куміра.

**Паводле іспанскай прэсы**

### СЕРБІЯ. Ліквідавана міністэрства акупаваных тэрыторый

Вынікам фармавання новага ўраду Сербіі стала маленькая сенсацыя. У новым урадзе не будзе міністэрства па справах Косава і Метохіі. Гэта міністэрства існавала ў структуры сербскага ўраду пасля таго, як у 1998 годзе Косава дэ-факта выйшла са складу сербскай дзяржавы. Роля таго дэпартаменту была дваякая: сімвалічна дэманстраваць нязгоду з аддзяленнем Косаўскага краю плюс абарона правоў сербскай меншасці ў Косава. Тое, што міністэрства Косава і Метохіі больш не будзе, шмат хто разглядае як тое, што Бялград нарэшце адмовіўся ад правоў на былую правінцыю. Тым больш, гэта можа паскорыць працэс інтэграцыі Сербіі ў склад Еўрасаюзу. Самі чыноўнікі новага ўраду, натуральна, гэта не прызнаюць. Яны кажуць, што вырашылі размеркаваць адказнасць за дапамогу косаўскім сербам паміж усімі міністрамі. Акрамя таго, ёсць думка, што ініцыятарамі роспуску міністэрства сталі самі косаўскія сербы. Быццам, ім надакучыла практыка раскрадання чыноўнікамі ў Бялградзе сродкаў, якія павінны ісці ім на дапамогу. У выніку ў Косава вырашылі працаваць з рознымі фондамі дапамогі без пасярэднікаў, для чаго і папрасілі зачыніць згаданае вышэй міністэрства.

**Паводле сербскай прэсы**

# Данецкія як асобная нацыя

*Алег НОВІКАЎ*

**Стваральнікі так званай Данецкай Народнай Рэспублікі аргументуюць яе права на існаванне, акрамя іншага, наяўнасцю данецкага этнасу. Ці сапраўды на Данбасе жыве асобны ад украінцаў народ, і што гэта за народ?**

Ад аргументаванага станоўчага адказу на гэтае пытанне будзе шмат у чым залежаць легітымізацыя данецкага сепаратызму ў масавай свядомасці і, магчыма, нават далейшае існаванне праекту.

Відавочна, што за аснову канцэпцыі існавання данецкага этнасу будуць прынятыя напрацоўкі актывістаў невялікай групоўкі «Данецкая Русь». Гэта палітычная секта была заснаваная ў 2005 годзе ў якасці рэакцыі групы рускамоўнай інтэлігенцыі Данецку на аранжавую рэвалюцыю. На першы погляд, гэта была тыповая патрыятычная групоўка, якія ва Украіне звычайна кормяцца пры Партыі рэгіёнаў. Аднак у групы была свая фішка. Яна паспрабавала сістэмна сінтэзаваць канцэпт існавання асобнай ад украінскай данецкай этнічна-культурнай супольнасці, што дае ёй правы патрабаваць як мінімум аўтаноміі ў складзе Украіны.

Перш за ўсё ўвага факусавалася на тым, што Данбас — гэта этнічна не украінская тэрыторыя. Першымі каланізаваць гэты дзікі край, быццам, пачалі рускія. У якасці доказу прыводзіліся мапы XVII стагоддзя, на якіх частка цяперашняй Луганскай вобласці ўваходзіць у склад тэрыторыі Данскіх казакоў. Улетку 1599 года баярын Багдан Бельскі заснаваў на рацэ Паўночны Данец крэпасць, што, маўляў, стала пачаткам прыходу цывілізацыі ў стэп. Падкрэсліваецца, што менавіта рускія прадпрымальнікі і інжынеры ператварылі Вялікае поле ў галоўную прамысловую базу Поўдня Расійскай Імперыі. Асноўная плынь працоўных эмігрантаў у Данбас ішла з цэнтральнай Расіі, а не з украінскіх губерняў. Паводле перапісу 1898 года, 72 працэнты насельніцтва Данбасу — вялікаросы.

Асобны блок аргументаў звязаны з самаідэнтыфікацыяй вядомых асобаў, якія нарадзіліся ў Данбасе. Кампазітар Сяргей Пракоф'еў, філолаг Уладзімір Даль, пісьменнік Усевалад Гаршын, піянер расійскага кінематографа Аляксандр Ханжанкоў, Аляксей Стаханаў і іншыя, хаця і нарадзіліся ў Данбасе, заўсёды лічылі сябе рускімі або грамадзянамі СССР. А аднаго украінскага класіка данецкія сепаратысты наогул моцна паважаюць. Гэта паэт, дысідэнт 1970-х гадоў Васіль Стус. У сваіх



мемуарах ён узгадвае Данецк, дзе яму давялося вучыцца, як абсалютна варожую ўкраінскаму чалавеку прастору. Пры гэтым, натуральна, забываюць, што той жа Сяргей Бубка — вядомы ўкраінскі спартсмен — мае данецкія карані.

Асаблівае месца ў міфатворчасці данецкага этнасу займае эпізод з Данецка-Крыварожскай Рэспублікай. Не дарма 9 лютага, калі ў 1918-м яна была створаная, данецкія сепаратысты абвясцілі Днём Данбасу. Пасля Кастрычніцкага перавароту Цэнтральная Рада абвясціла стварэнне Украінскай народнай рэспублікі (УНР). Украінай абвяшчаўся і Данбас. У адказ пленум Выканкама Саветаў Данкрывбаса выступіў з ініцыятывай аб неабходнасці стварэння «незалежнай ад кіеўскіх цэнтраў самакіраванай аўтаномнай Данецкай вобласці».

Мяркуючы па ўсім, абвясціць стварэнне такой рэспублікі планавалася на зборах у Харкаве. Аднак у Кіеве, дзе паралельна праходзілі першыя зборы Саветаў Украіны, бальшавікі аказаліся ў меншасці. Тады бальшавікі абвясцілі з'езд дэлегатаў Данкрывбаса Першым з'ездам Саветаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў усёй Украіны. Тут жа быў створаны і прасавецкі аналаг УНР пад кіраўніцтвам нацыянал-камуніста Міколы Скрыпніка.

Але як толькі немцы і гайдамакі пачалі ваяваць са Скрыпнікам, данецкія абвясцілі сваю, тую самую Данецка-Крыварожскую Рэспубліку (ДКР). Яна пратрымалася каля месяца, аднак прэцэдэнт, на думку сепаратыстаў, быў створаны.

ДКР спрабавалі адрадзіць у 1919 годзе, калі ў Данбас вярнуліся чырвоныя. Зноў пачалася барацьба бальшавікоў — прыхільнікаў стварэння ДКР з бальшавікамі-украінцамі. Урэшце, у спрэчку Украіны і Данбаса ўмяшалася Масква, і валявым рашэннем тав. Сталіна было загадана лічыць Данкрывбас часткай Украіны.

У савецкі час Данбасу адводзілася роля нараджэння савецкіх міфалагем. Данбас даваў глебу для гісторыка-ідэалагічнай міфалогіі савецкай дзяржавы. З гэтай серыі рух стаханаўцаў, вобраз падпольшчыкаў Маладой Гвардыі, Паша Ангеліна, «Спяць курганы цёмныя» і гэтак далей. Нядзіўна, што пасля абвяшчэння незалежнасці Украіны, падчас страйкаў у 1993 годзе, шахцёры патрабавалі аўтаноміі ад нацыяналіста Краўчука. Пасля пачатку паходу «данецкіх» ва ўладу дэмакратычныя СМІ зрабілі Данбасу імідж краю бандытаў і гопнікаў, што садзейнічала ментальнай ізаляцыі данецкай супольнасці.

Цікава, што данецкія сепаратысты не лічаць сябе рускімі. Яны сцвярджаюць пра наяўнасць сярод абарыгенаў сербскага, балгарскага і грэчаскага субстрату. Як вядома, царская адміністрацыя давала землі выхадцам з іншых краін на ільготных умовах, прыцягваючы іх для нясення памежнай службы. У 1753 годзе сюды прыбыла першая сербская група, і нават была створана новая адміністрацыйная адзінка Расійскай імперыі — Славянасербія з цэнтрам у Бахмут (цяпер Арцёмаўск).

Нягледзячы на карлікавы характар руху данецкіх сепаратыстаў, Кіеў усе часы незалежнасці ставіўся да праблемы Данбасу вельмі сур'ёзна. Магчыма, баяліся, што Партыя рэгіёнаў можа пачаць гуляць у незалежніцкія гульні. Друкавалася дастаткова шмат (па ўкраінскіх маштабах) прапагандысцкай літаратуры, якая даводзіла ўкраінскасць Данецкага краю. Пры Ючшанку спрабавалі ўсур'ёз разглядаць легенду пра тое, што ў часы вайны ў Данбасе дзейнічала сетка бандэраўскага падполля, у сябры якой запісалі нават групу «Маладая Гвардыя».

Кіеўскімі гісторыкамі аспрэчваўся тэзіс пра тое, што піянерамі-каланістамі Дзікага поля былі рускія. Раней за іх, быццам, тут з'явіліся сяляне з Правабярэжнай Украіны, якія беглі ад паншчыны, і запарожскія казакі. Так, у Кіеве моцна пратэставалі супраць таго, каб заснавальнікам Юзаўкі (цяперашні Данецк) лічылі англійскага прадпрымальніка Джона Юза. У сваіх брашурах яны даводзяць, што горад узнік на базе ўкраінскай казацкай станіцы Аляксандраўка. Нядзіўна, што ва ўсіх гістарычных атласах цяперашні Данбас уключаны ў склад тэрыторый, падкантрольных Запарожскаму казацтву.

Цяпер гістарыяграфічныя войны вакол Данбасу пачнуцца ў нябачаных яшчэ ў гісторыі памерах. Асабліва будзе шмат інвеставаць у агітпроп Масква, паколькі толькі праз ідэю данецкага этнасу можна легітымаваць сепаратызм у краі, дзе этнічную большасць складаюць украінцы. З іншага боку, Масква можа выступіць і магільшчыкам данецкага нацыяналізму. Не выключана, што Данецк і Луганск стануць плацдармам для спроб вяртання ў Кіеў Януковіча, які павінен мецьімідж агульнаўкраінскага лідара. У апошнім варыянце данецкі сепаратызм будзе знішчаны самімі цяперашнімі данецкімі сепаратыстамі.

# Палітык з віламі

Алег НОВІКАЎ

**Як бы ні закончыліся прэзідэнцкія выбары ва Украіне, відавочна, што 41-гадовы Алег Ляшко ўжо стаў адным з пераможцаў. За час выбарчай кампаніі ён ператварыўся з маргінала ў аднаго з самых пазнавальных палітыкаў у краіне. Пра прычыны ўзлёту Ляшко разважае кіеўскі журналіст Мікола Уласаў.**



***— Якія вынікі можа прадэманстраваць Алег Ляшко на выбарах 25 мая?***

— Дынаміка рэйтынгу Ляшко вельмі добрая. Ён стартаваў увосень са смешных 0,34 працэнта падтрымкі. У снежні мінулага года яго гатовыя былі падтрымаць каля аднаго працэнту. Цяпер у шэрагу рэгіёнаў цэнтральнай Украіны яго падтрымка дасягае 6–7 працэнтаў. Натуральна, найбольш Ляшко сімпатызуюць на роднай Чарнігаўшчыне. Там за яго гатовыя аддаць галасы каля 10 працэнтаў (увогуле, гэта другі папулярны кандыдат у вобласці). Думаю, што Ляшко па сілах узяць каля 4–5 працэнтаў. Гэта гарантуе яму салідные 4–5 месца і шанс яго Радыкальнай партыі прайсці ў парламент на хуткіх выбарах.

***— Адкуль узяўся Алег Ляшко ва ўкраінскай палітыцы?***

— Увогуле, ён з дзетдомаўскіх. Раней яго больш ведалі як дастаткова радыкальнага апазіцыйнага журналіста. Калі ў часы Кучмы пачалі закручваць гайкі, Ляшко трапіў у вельмі непрыемную гісторыю і атрымаў чатыры гады за нейкія фінансавыя махінацыі, звязаныя з рэдакцыяй адной з газет. Хутка яму далі амністыю, і ён цалкам падаўся ў палітыку. У 2006 годзе, не без дапамогі алігарха Бродскага, трапіў у прахадную частку спісу партыі Цімашэнка і атрымаў пасведчанне дэпутата. Аднак пасля вырашыў гуляць сола, стварыўшы пад сябе структуру — Радыкальную партыю. У цяперашнюю Раду Ляшко трапіў па мажарытарнай акрузе. Ён абіраўся па роднай Чарнігаўшычыне, дзе ён мэтанакіравана працуе амаль год.

***— Чаму сёння ва ўкраінскім грамадстве назіраецца відавочны інтарэс да такой супярэчлівай фігуры, як Ляшко?***

— Відавочна, што гэта звязана са зменай атмасферы ў грамадстве пасля Майдана. Ляшко і раней быў вядомы публіцы. Яго часта запрашалі на розныя шоў, аднак хутчэй у якасці аніматара. Яго выступы былі абсалютна паза кантэкстам размовы, і хутчэй уяўлялі набор радыкальных слоганаў. Асабліва праславіўся ён тым, што з'яўляўся на людзях і ў праграмах з віламі, на якія абяцаў узняць усіх — карупцыянераў, бандытаў і г.д. Майдан змяніў стаўленне да палітыка. Па-першае, ён давёў, што не баязлівец. Яго бачылі на барыкадах Грушэўскага, куды нават некаторыя лідары «Правага сектару» носу не паказвалі. Яго апошнія перформансы з захопам сепаратыстаў, якіх ён тэатральна дапытваў, стварылі яму імідж чалавека, які гатовы дзейнічаць, а не размаўляць. Нарэшце, падчас Майдану электарату ўвесь час казалі, што ўкраінскай палітыцы патрэбныя новыя твары. Сёння такім новым тварам сярод іншых кандыдатаў у прэзідэнты па сутнасці з'яўляецца толькі лідар радыкалаў.

***— Нядаўна ўкраінская пракуратура папярэдзіла Ляшко наконт таго, што арышты ад свайго імя сепаратыстаў і знятыя на відэа іх допыты, парушаюць мноства законаў аб грамадзянскіх правах. Ляшко не баіцца, што гульня з законам можа скончыцца для яго вельмі кепска?***

— Пакуль у яго ёсць дэпутацкая недатыкальнасць, а Украіна знаходзіцца ў стане вайны, яму нічога не пагражае. Аднак у любым выпадку, ёсць думка, што ён свядома працягне рабіць такія правакацыі. Яму трэба, каб вакол яго аб'ядналіся людзі, якія яму вераць. Толькі так можна паспрабаваць ператварыць Радыкальную партыю ў нешта больш сур'ёзнае і прарвацца ў парламент і ў мясцовыя органы ўлады. Дагэтуль радыкалы нагадвалі адзін з бізнэс-праектаў мясцовых прайдзісветаў. Напярэдадні выбараў яны атрымлівалі ад Ляшко грошы і імітавалі нейкую партыйную працу. Паводле незразумелага прынцыпу фармаваліся і кандыдацкія спісы партыі. Не дарма Ляшко праславіўся тым, што напярэдадні парламенцкіх выбараў 2012 года зацвердзіў «крывавую» клятву для кандыдатаў ад радыкалаў. Кандыдат ад яго партыі даваў прысягу не здрадзіць Ляшко ў выпадку перамогі і не пераходзіць у іншы лагер. У адваротным выпадку аднапартыйцы мелі права закалоць здрадніка такім чынам, каб уся яго кроў вылілася ў Дняпро. Натуральна, «прысяга» — гэта толькі жарт, аднак пра наяўнасць кадравай праблемы ў партыі яна сведчыла.

***— У чым моц Алега Ляшко?***

— Палітолагі адзначаюць яго здольнасць вельмі хутка адчуваць настроі людзей, талент апаратўна знайсці адказнага за ўзнятую праблему, або прапанаваць нескладаную формулу яе рашэння. Усё гэта робіцца з дапамогай вельмі прымітыўнай, зразумелай усім лексікі. У выніку шматлікіх спарынгаў на шоў ён навучыўся дражніць праціўніка, каб той у дыялогу рабіў нейкія памылкі.

***— Як выглядае сярэднестатыстычны выбаршчык лідара Радыкальнай партыі?***

— Гэта прадстаўнік Цэнтральнай і Паўночнай Украіны. Хутчэй за ўсё, у яго сярэдняя адукацыя. Інакш бы ён зразумеў, што прапановы Ляшко пазбаўленыя сістэмнага аналізу сітуацыі. Да гэтай групы можна прыплюсаваць тых, хто будзе галасаваць часта эмацыйна. Нарэшце, у армію аматараў Ляшко можна дадаць прадстаўнікоў інтэрнэт-аўдыторыі. Цытаты і фотажабы ад Ляшко стварылі яму аўдыторыю ў сацыяльных сетках. Паводле апытанняў на шматлікіх праеўрапейскіх сайтах, Ляшко — фаварыт выбараў.

***— Праціўнікі Ляшко ахвотна ўзгадваюць відэа прыкладна 20-гадовай даўніны, дзе ён распавядае следчаму пракуратуры пра сваю гомасэксуальную сувязь з нейкім чыноўнікам. Думаецца, гэта вельмі моцны кампрамат з улікам маштабаў гамафобіі ў нашых шыротах. Ці ўплываюць спробы стварыць Ляшко імідж гомасэксуаліста на яго рэйтынгі?***

— Хаця сам Ляшко кажа што тое відэа — фальсіфікацыя, гісторыя дасюль мусіруецца. Аднак пасля таго, як яе пачалі ўсё часцей дэманстраваць на расійскіх каналах, тэма магчымай гомасэксуальнасці Ляшко перастала ўспрымацца як параметр, паводле якога людзі фармуюць сваё стаўленне адносна дадзенага палітыка.

***— Ці можа папуліст Ляшко заняць сталае месца ва ўкраінскай палітыцы?***

— Тут шмат будзе залежыць ад вынікаў запланаванай палітычнай рэформы. Агучана прапанова на наступных выбарах абіраць дэпутатаў выключна па спісах. Пры такім раскладзе ў Радыкальнай партыі няшмат шансаў дарвацца да мандатаў. Гэта значыць, што Ляшко прыйдзецца вяртацца пад крыло больш буйных партый, напрыклад, партыі Юліі Цімашэнка. Аднак не выключана, што пратэкцыя Юліі не будзе патрэбная Ляшко. У выпадку, калі абяцанага ўрадам Яцанюка эканамічнага цуду доўга не будзе, давер да партыі Цімашэнка пачне падаць на карысць у тым ліку Ляшко.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тамаш Шнэйдэр



Дэпутат венгерскага парламента ад праварадыкальнай партыі «Jobbik» быў абраны віцэ-спікерам парламенту, што справакавала скандал. Справа ў тым, што свой шлях у палітыку Тамаш пачынаў у складзе агрэсіўнай групоўкі скінхедаў. За свае выхадкі Рой — такая была мянушка ў цяперашняга палітыка ў пачатку 1990-х гадоў — неаднаразова меў праблемы з паліцыяй. Асабліва малады Тамаш праявіў сябе ў бойках з прадстаўнікамі цыганскай меншасці. Усё гэта ўзгадалі ў тым ліку на еўрапейскім узроўні. Фракцыя сацыялістаў у Еўрапарламенце ўжо асудзіла прызначэнне Шнэйдэра на пасаду віцэ-спікера. Дасталася і прэм'еру Віктару Орбану, без партыі якога абранне Шнэйдэра было б немагчыма. Што тычыцца партыі «Jobbik», то яе кіраўніцтва заявіла: прыводы Шнэйдэра ў паліцыю былі следствам правакацый з боку цыганскай мафіі. Правыя радыкалы таксама заявілі, што кампанія супраць Шнэйдэра — гэта помста левых пасля таго, як быў засуджаны адзін з удзельнікаў падаўлення венгерскага паўстання 1956 года.

### Юлія Цімашэнка



Чым бліжэй да выбараў 25 мая, тым больш ва ўкраінскіх СМІ спекуляцый наконт таго, як Юлія Цімашэнка, кандыдат у прэзідэнты ад партыі «Батьківщина», будзе рэагаваць на будучы электаральны правал. Відавочна, што ніякіх шансаў перамагчы на выбарах у Лэдзі Ю няма (разрыў з фаварытам Пятром Парашэнкам складае каля 30 працэнтаў). Між тым, вядома, што амбіцыі ў Юліі напалеонаўскія, і таму ўладу, якая зараз ў руках яе партыі, яна дакладна проста так не аддасць. На думку аналітыкаў, магчымы некалі варыянтаў рэакцыі Цімашэнка. Хутчэй за ўсё, яна паспрабуе аб'яднаць вакол сябе ўвесь парламент, пачаць вайну з выканаўчай уладай. Ужо ёсць чуткі пра тое, што «Батьківщина» і Партыя рэгіёнаў вядуць сакрэтныя перамовы на гэты конт. Ёсць версія і пра тое, што Юлія не будзе доўга чакаць. Як толькі будуць абвешчаны вынікі выбараў, на Майдане паўстануць лаяльныя «Батьківщине» майданаўскія сотні самаабароны. Мяцеж не дапусціць прыходу Парашэнкі да ўлады. Апошні варыянт гучыць дастаткова смела. Аднак апошнім часам на месцах пачалася вайна паміж цімашэнкаўцамі і прыхільнікамі Парашэнкі, якога падтрымлівае «Правы сектар». Адначасова некалькі сотняў самаабароны на днях заявілі, што ні ў якім разе не сыдуць з Майдана, як гэтага патрабуюць улады.

### Азада Рахмон



Спецыяльным загадам прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона яго дачка Азада прызначана на пасаду першага намесніка міністра замежных спраў рэспублікі. Навіну пра новую пасаду Азады цяжка назваць сенсацыяй. Яе муж Джамалідзін Нуралієў займае пасаду першага намесніка міністра фінансаў Таджыкістана. Яшчэ адзін сваяк прэзідэнта, муж яго другой дачкі, не так даўно ўзначаліў консульскую службу амбасады Таджыкістана ў Маскве. Старэйшы сын прэзідэнта Рустам кіруе Мытнай службай Таджыкістана. А кіраўніком Падатковай службы па Хатлонскай вобласці, самай густанаселенай часткі Таджыкістана, з'яўляецца пляменнік прэзідэнта, сын роднай сястры Эмамалі Рахмона. Такая рахманізацыя дзяржаўнай вертыкалі прывяла да таго, што Таджыкістан з'яўляецца вядучай краінай у свеце, дзе большасць кіруючых пасад займаюць сваякі кіраўніка дзяржавы. Каментуючы апошняе прызначэнне, назіральнікі адзначаюць, што Рахмон стаў часта казаць пра тое, быццам мае арыстакратычныя і нават арыйскія гены. Раней ён вельмі ганарыўся тым, што паходзіць з простых сялян. Такая рыторыка Рахмона сведчыць пра тое, што ў прэзідэнцкім клане думаюць пра змену дзяржаўнага ладу краіны на канстытуцыйную манархію.

# Подых жыцця: Зміцер Вайцюшкевіч

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Зміцер Вайцюшкевіч — адзін з нямногіх музыкаў, якія без так званага «адміністрацыйнага рэсурсу» можа сабраць людзей на дадатковы канцэрт па той простай прычыне, што на асноўны не хапіла квіткоў. На жаль, гэта не перашкодзіла ўладам, а мо, наадварот, паслужыла для іх штуршком, каб уключыць музыку ў так званыя «чорныя спісы». Чыноўнікі ад культуры не разумеюць, што забараніць любоў прыхільнікаў творчасці ім не дадзена.**



## Крышталь дзяцінства

Напэўна, месца народзінаў Зміцера Вайцюшкевіча ведае амаль кожны беларус. Бярозаўку Лідскага раёна Гродзенскай вобласці нефармальна называлі «крышталёвай сталіцай Беларусі». Яшчэ ў 1883 годзе на беразе самай прыгожай беларускай ракі Нёман Юліус Столе і Вільгельм Краеўскі арганізавалі вытворчасць шкла, якое потым стане адной з візітовак сучаснай Беларусі.

Нарадзіўся Зміцер 20 ліпеня 1971 года. Бацьку звалі Іванам Аляксандравічам, але звычайна яго называлі Янакам. Маці — Лідзія Імпалітаўна. У пашпарце памылкова напісана «Іпалітаўна». Як тлумачыць памылку сам Зміцер Вайцюшкевіч — бальшавікі банальна не ведалі пра наяўнасць мужчынскага імя Імполь, таму і зрабілі яго «Іпалітам». Бацькі будучага спевака былі простымі людзьмі, што ў разуменні бальшасці азначае — не належалі да начальнікаў. На жаль, нікога з іх на гэтым свеце ўжо няма. Калі Зміцеру было тры з паловай гады, бацьку насмерць збілі матацыклам, а ў 2009 годзе пайшла з жыцця і маці.

Палову роднай вуліцы Зміцера займаюць жыхары з прозвішчам Вайцюшкевічы, а ў другой палове жывуць Брылі. Што па сутнасці «адно і тое ж», бо за многія стагоддзі ўсе яны пераканіліся паміж сабой.

Значную частку дынастыі Зміцера Вайцюшкевіча складаюць шкляры. Аднаго з яго дзядоў у міжваенны час уладальнік прызначыў дырэктарам заводу. На той час даволі вялікая пасада. Было гэта ў 1939 годзе. Зміцер з дзяцінства памятае здымак дзеда на фоне егіпецкіх пірамід.

Другая частка сваякоў — будаўнікі. Адзін нават дайшоў да намесніка прэм'ер-міністра. У 1994 годзе сярод намеснікаў Вячаслава Кебіча быў Станіслаў Васільевіч Брыль. Гэта дзядзька Зміцера Вайцюшкевіча.

У Бярозаўцы — дзве школы. Адна спецыялізуецца на нямецкай мове, другая вызначаецца паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. У ёй Зміцер і вучыўся, і ўдзячны настаўнікам за магчымасць размаўляць па-англійску даволі свабодна.

Яго дзяцінства прайшло як і ва ўсіх аднагодкаў — лес, грыбы, Нёман, гульні ў «партызаны». Сям'я трымала свайго кабанчыка (шынка, сала, паляндвіца), таму ніколі не ведала галечы.

У тагачаснай кампаніі Зміцера былі дзеці розных узростаў. На сённяшні дзень бальшасць адсядзелі ў турме, а ён не трапіў за краты перш за ўсё таму, што пачаў займацца музыкай. І яшчэ дзякуючы даволі цеснай апецы бабулі, цёткі і маці.

А апякаць было ад чаго, бо ў той кампаніі і гарэлку пілі, і курылі. Алкагольны дэбют Зміцера адбыўся ў сем год. Напэўна, шмат хто ведае пра беларускую традыцыю ставіць вясельную браму, то бок перагароджваць маладым дарогу. Звычайна, гэта каштуе некалькі бутэлек гарэлкі, але бывае і больш багатае вяселле. Шматлікай бандзе сямігадовага Зміцера (да якой далучыліся і дарослыя былыя зэкі) аднойчы выставілі два вядра самагонкі.

Так паспрабаваў першы кілішак. Якраз у той момант да бабулі прыехала з Бельгіі (для Заходняй Беларусі раскіданыя па ўсім свеце з-за вайны сваякі — звычайная справа) родная сястра з мужам, бельгійскім паштальёнам, якога мясцовыя адразу назвалі «Рэне Карлавічам».

Калі п'яны хлапчук прыйшоў дамоў і лёг спаць, яны гэтага не бачылі, але, калі потым ён выбег з хаты і каля плота зрабіў тое, што звычайна называюць «арыяй Рыгалета», былі шакаваныя. Пра той сорам Зміцер Вайцюшкевіч памятае па наш дзень.

Адразу падкрэслю, што гэты выпадак — выключэнне, а прыярытэты былі іншыя. Хлопчык хадзіў у розныя гурткі і секцыю вольнай барацьбы. Нават быў чэмпіёнам Лідскага раёна ў вазе да 35 кілаграмаў, аднак музыка перамагла, хаця барцоўская ўчэпістасць і сёння дапамагае па жыцці. У музычную школу ён не трапіў (грошай не было), таму абмежаваўся школьным духавым аркестрам.

На гэты ж час прыходзіцца і першае каханне, якое мела гучнае імя Эдзіта Федарэнка. Потым Зміцер даведаўся, што яна скончыла ўніверсітэт Патрыса Лумумбы, выйшла замуж, нарадзіла двух дзяцей і жыве зараз у Маскве. Са школы не бачыліся ніводнага разу.

## Музычны вектар

Пасля васьмі класаў школы Зміцер Вайцюшкевіч паступіў у Лідскае музвучылішча. Спецыялізавацца выпала на кларнеце. Было гэта ў 1986 годзе.

Адмысловай адукацыі ў выглядзе музычнай школы ў яго не было. Толькі добры слых, што для любога музыкі з'яўляецца галоўным кампанентам. Да таго ж знаёмыя крыху паднатаскалі яго гранню на «артапедычным» кларнеце. «Артапедычнымі» Зміцер Вайцюшкевіч называе ўсе савецкія інструменты, якія ён прынцыпова лічыць антычалавечымі.

Рыхтавалі яго да паступлення ў Пецярбургскую (на той час Ленінградскую) кансерваторыю. Чаму менавіта туды? Усё проста: там вучыўся сын аднаго з выкладчыкаў, які потым прайшоў праз аркестр Мусаргскага і спыніўся на трупе Валерыя Гергіява.

Вайцюшкевічу абралі менавіта гэтую сцяжынку, аднак, калі ў 1990 годзе ён прыехаў у Ленінград, абставіны змяніліся так, што ў яго ўжо не было ніякіх шансаў. Праслухаўшы хлопца з далёкай Бярозаўкі, ленінградскія настаўнікі параілі павучыцца крыху ў Петразаводску, а адтуль праз год, маўляў, адбудзецца перавод у Ленінград.

Зміцера такая перспектыва не задаволіла, і ён адразу паехаў паступаць у Мінск. Хутка высветлілася, што тут ужо ведаюць пра «ленінградскую спробу», і надта пакрыўдзіліся на адсутнасць належнага патрыятызму. Па гэтай прычыне з мінскай кансерваторыяй таксама нічога не атрымалася. Настаўнік па кларнету Вайцюшкевіча да сябе не ўзяў. Прыйшлося пайсці ў інстытут культуры, дзе выкладаў вучань лідскага куратара Зміцера.

Хто жыў у тыя гады, добра памятае, што дробнай камерцыяй тады займаліся амаль усе. Студэнт Вайцюшкевіч, зразумела, спецыялізаваўся на крышталі, які дадому прыносіла маці.

Спачатку ён вазіў крышталь у Беласток, а потым — у Варшаву. Гандляваў будучы знакаміты музыка на прыступках вядомага Палацу культуры і навукі, які месціцца бліз чыгуначнага вакзала «Варшава Цэнтральная». У пачатку «ліхіх дзевяностых» там быў адзін з вядомых базараў Варшавы...

Як і трэба было чакаць, у польскай сталіцы Зміцер Вайцюшкевіч не толькі гандляваў. Першымі былі музычныя арыенціры. Ён нават трапіў на праслухоўванне да аднаго з прафесараў Варшаўскай музычнай акадэміі. Той пагадзіўся ўзяць Зміцера да сябе і накіраваў у канцылярыю. Там Зміцер і даведаўся, што за год вучобы трэба заплаціць суму, эквівалентную 1650 далярам. У 1991 годзе гэта былі не проста шалёныя, а вельмі шалёныя грошы... Можна нават сказаць — касмічныя...

Словам, варшаўскім кларнетыстам Вайцюшкевіч не стаў.

Дарэчы, менавіта ў гэты перыяд Зміцер ледзь не стаў крыміналікам. Жарт, канешне, але самому Вайцюшкевічу было не да жартаў. У тыя гады мінскі «Камароўскі рынак» нагадваў сучаснае ждановіцкае «Поле цудаў». Будучы спявак некалі разоў прадаваў там бярозаўскі крышталь. Аднойчы падышлі нейкія маладыя хлопцы і пачалі цікавіцца таварам. Ён назваў кошты і паабяцаў зрабіць зніжку, калі будуць браць оптам. Тыя пагадзіліся, але замест грошаў выцягнулі з кішэняў міліцэйскія пасведчанні.

Адкруціцца пашанцавала штрафам, але з гэтага моманту ў Зміцеры Вайцюшкевічы назаўжды памёр бізнэсмэн.

А яшчэ студэнтам, каб зарабіць грошы, час ад часу Вай-

цюшкевіч граў у пераходзе метро «Плошча Перамогі» альбо ў пераходзе (вельмі рэдка) каля Глаўпаштамту, а калі туды прыходзілі жабракі, прынцыпова сыходзіў. Хацеў зарабіць грошы прыгожа, нават марыў зрабіць своеасаблівы беларускі Манмарт.

Аднойчы пад Новы год граў на кларнеце ў вопратцы Дзеда Марозу, раздаваў дзецям цукеркі і чырванеў, калі ўдзячныя бацькі, за гэта «выказвалі матэрыяльную падзяку».

Нарэшце ў 1992 годзе Зміцер Вайцюшкевіч вырашыў прыняць удзел у конкурсе спевакоў, які ладзіла беларускае тэлебачанне.

У студэнта з Конга ён пазычыў зялёны двухбортны пінжак з моднымі залатымі гузікамі, надзеў шыйную хустку і выканаў песню з рэпертуару «Сяброў» «Белая, белая, русая, русая» (словы — Лягчылава, музыка — Лучанка), але ўсё абмяжавалася толькі першым турам, бо ў другі не прайшоў.

Там былі пераважна заслужаныя і народныя, а тут — нікому не вядомы хударлявы хлопец. Такі наіўны...

## Новы паварот

Ён адбыўся на прыступках Інстытута культуры, калі да Зміцера Вайцюшкевіча падышоў бубнач ансамбля «Палац» Уладзіслаў Шварцкопф (па аналогіі з фільмам «Шчыт і меч» некаторыя называюць яго — Генры Шварцкопф) і прапанаваў паспрабаваць стаць салістам групы «Палац». Той пагадзіўся і паспяхова «праслухаўся».

«Палац» тады працаваў над двума напрамкамі — народныя песні і рэтра накшталт песняў Леаніда Уцёсава і Эдзі Рознара. Апошняе і мусіў Зміцер Вайцюшкевіч.

У 1993 годзе «Палац» трапіў на чарговы адбор «Славянскага базару», дзе самым галоўным у журы быў Уладзімір Мулявін. «Палац» стаў для яго сапраўдным выбухам. Мулявін літаральна сказаў: ніякіх конкурсаў, гэтыя хлопцы будуць выступаць на галоўнай сцэне як прадстаўнікі Беларусі.

Дарэчы, менавіта там Зміцер Вайцюшкевіч пазнаёміўся са сваёй першай жонкай Веранікай Кругловай, якая потым стане амаль першай рок-князёўнай Беларусі.

Адбылася ў тым годзе і яшчэ адна знакавая для яго лёсу сустрэча. У 1993 годзе ў Беларусь прыехала дачка Івонкі Сурвілы Паўліна, каб сабраць для сваёй амерыканскай доктарскай дысертацыі фактуру па беларускім фальклоры. Яна і прапанавала «паездзіць па Беларусі».

Тое, што тады Вайцюшкевіч убачыў сваімі вачамі і пачуў сваім вушамі, цалкам змяніла яго светапогляд і адносіны да беларускай песні. І сёння нават цяжка ўявіць, што некалі ён спяваў па-руску.

Да 1997 года Зміцер Вайцюшкевіч уваходзіў у залаты склад «Палацу», таму калі ён разам з Веранікай Кругловай і Юрыем Выдронкам заснавалі «Крыві», шмат хто гэтага не зразумеў.

Пакіну ўсе акалічнасці тых падзеяў для музыказнаўцаў, адзначу толькі, што самы зацікаўлены ў справах «Палацу» чалавек і яго нязменны кіраўнік Алег Хаменка па наш дзень ставіцца да сыходу Зміцера Вайцюшкевіча вельмі спакойна, што для шоў-бізнэсу, мякка кажучы, не характэрна...

Па гэтай жа прычыне не стану акцэнтаваць увагу і на далейшых прыгодах «Крыві». Спецыялісты тут расставяць кропкі лепш.

У 2001 годзе пачалася сольная кар'ера Зміцера Вайцюшкевіча, прадвеснікам якой стала праца над альбомам «Цацачная крама», на вершы Леаніда Дранько-Майсюка.

Дарэчы, менавіта з гэтага моманту і дэбютаваў Вайцюшкевіч-рэжысёр. У тым сэнсе, што адгэтуль мастацкае аздабленне ўсіх сваіх музычных праектаў ён прыдумляе сам.

Цікава, што 4–5 сольнікаў ён запісаў на абсталяванні «Палаца», якое было куплена вядомай тады ўсім фірмай «Дайнова».

Праз некалькі год Зміцер Вайцюшкевіч зразумеў, што ў фальклоры яму стала цеснавата, бо ў той час толькі лянівы не абраў менавіта гэты музычны накірунак. Мабыць, многія артысты разумелі, што гэта вельмі запатрабаваны за мяжой хлеб.

Вайцюшкевіч вырашыў паспрабаваць сябе ў «спяванай паэзіі», то бок паўтарыць тое, што некалі рабілі «Песняры» ў музычных праграмах на вершы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы. То бок, прайсці іх дарогай, але зрабіць па-свойму.

Зміцер абраў Маякоўскага, і прысвяціў гэтаму ўвесь 2003 год. І зрабіў акцэнт не на яго рэвалюцыйнасці, якая добра вядома яшчэ са школы, а на тым, што спецыялісты называюць футурызмам.

За расійскім паэтам пакрочылі беларускія. Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Генадзь Бураўкін.

Паралельна пачалася сумесная праца з Алесем Камоцкім, чые песні таксама ўжо былі добра вядомыя, і работа над сумеснымі праектамі «Святы вечар», «Я нарадзіўся тут» і «Скрыпка дрыгвы». Апошні альбом быў ужо запісаны, але потым шлях яго спыніўся — кожны ўзяў для сябе сваю частку.

7 мая 2001 года Зміцер Вайцюшкевіч заявіў аб утварэнні асабістай каманды «Усход-захад аркестр» (WZ-Orkiestra).

## Распаўсюджаныя пытанні

Усе, хто цікавіцца творчасцю і жыццём Вайцюшкевіча, задаюць іх часцей за ўсё, таму я і вырашыў з дапамогай самога Зміцера, як кажуць, «расставіць усе кропкі над «і».

***— Колькі на дадзены момант запісана альбомаў?***

— Усіх — каля 40. Асабістых — 18. Сумесных — 4. З «Палацам» — палова дзесятка, столькі ж з «Крыві». Плюс шмат «зборак». Плюс альбом «Personal Depeche», створаны ў 2002 годзе. Гэта беларускі трыб'ют знакамітага гурту «Depeche Mode», дзе я выконваў эратычную «I want you now».

Ідэя належала «фанатам» «Depeche Mode». Такім чынам яны хацелі паказаць, што прыхільнікі гурту ёсць і ў Беларусі.

***— Чаму «Тодар»?***

— У «Палацы» мянушкі былі ўва ўсіх. Мяне звалі «Фёдар Іванавіч», часцей проста — «Фёдар». У «Крыві» трэба было пастаянна праяўляць цвёрдасць характару, таму адбылася трансфармацыя ў «Тодар». Менавіта такія асацыяцыі слова і вызывае.

Калі мы пачалі ездзіць за мяжу, «новае імя» вельмі спатрэбілася. Іншаземцам было вельмі цяжка вымаўляць «Зміцер Вайцюшкевіч», для некаторых — амаль катастрофа. «Тодар» — значна прасцей.

Да таго ж... Так прасцей (смяецца) заблытаць цёшчу...

***— Нядаўна яшчэ з'явіўся «Хведар Шчавель»?***

— Гэта звязана з напісаннем альбому беларускага шансону.

Калі не памыляюся, сцэнічны псеўданім «Мэрлін Мэйсан» «складзены» з імён двух вельмі жахлівых злачынцаў. У дадзеным выпадку я вырашыў пайсці гэтай жа «дарогай».

Памятаеце, «злодзея ў законе» з мянушкай «Шчаўлік»?..

***— Творчасць Вайцюшкевіча асацыюецца з нечым рамантычным, узнёслым прыгожым, а тут — шансон...***

— Як у тым анекдоце — не трэба блытаць «шансон» з «блатняком».

Калі мы разам са знакамітым паэтам Генадзем Бураўкіным працавалі над гэтым альбомам, першапачаткова не хацелі «крыміналізаваць» вобраз героя песняў. І іх тэму. Для нас галоўнае — чалавек, які апынуўся ў цяжкіх жыццёвых умовах. На пэўным этапе яны адбываюцца амаль у кожнага з нас. І кожны іх перажывае па-свойму.

Скажам так, альбом — мост паміж афіцыйным светам і неафіцыйным.

***— «WZ-Orkiestra» таксама мост?***

— Безумоўна. Нават назва такая — «Усход-захад аркестр». Ніхто ў Беларусі зараз гэтым не займаецца. Натуральна, што нейкія кантакты ў музыкаў ёсць, але тут нешта большае, чым выкананне асобных песняў. Праз іх мы імкнёмся зразумець сапраўдную сутнасць нацы, стварыць яе музыкальны кантэкст на фоне аб'яднання Усходу і Захаду.

Не палічыце пафасам, аднак у нейкім сэнсе мы, сапраўды, будуем масты паміж людзьмі. І выконваем па-беларуску японскія, шведскія, польскія песні. А праз вершы Уладзіміра Маякоўскага пабудавалі беларуска-расейскі мост. Зараз ідзе аналагічная праца адносна вядомага чэшскага барда Яраміра Нагавіца.

***— А чаму Вайцюшкі?***

— У жыцці кожнага з нас наступае момант, калі чалавек разумее, што патрэбна мець нешта сваё. У 2006 годзе я адчуў — асабіста ў мяне нічога такога няма. Таму і паставіў перад сабой задачу бліжэйшым часам нешта набыць.

Наверсе заўсёды чуюць нашы просьбы і часта даюць чалавеку шанец. Выпаў ён і для мяне.

За 900 даляраў набыў старую хату. Хутар на беразе Нёмана, дзе май бацька калісьці адпачываў і заляцаўся да пляменніцы гаспадара гэтага дома.

За сем год існавання лецішча, мы зрабілі там рамонт і нават крыху заняліся агратурызмам.

Больш за тое, забарона на канцэрты дала мне магчымасць больш глыбока разабрацца ў тым, што нас акружае. Цяпер я ведаю, калі і якая птушка спявае, навошта і дзе растуць розныя травы.

Па сутнасці, я вярнуўся на родную зямлю. Толькі ў іншай якасці.



**Зміцер Вайцюшкевіч з жонкай Галінай і сынам Язэпам**



**Стэфан і Стэфанія (Былы амбасадар Швецыі ў Беларусі Сэфан Эрыксан з дачкой Зміцера Вайцюшкевіча)**



**Канцэрт «Крыві». Злева направа: Піт Паўлаў, Вераніка Круглова, Зміцер Вайцюшкевіч**



**З сушанымі грыбамі**

А такую амбіцыйную назву прыдумала мая жонка Галіна.

***— Дапамажыце разабрацца з вашымі жонкамі...***

— Першай была Вераніка Круглова, потым — Алена Мелех, зараз — Галіна Казіміроўская. Вельмі спадзяюся, трэцяя жонка стане апошняй. Яна для мяне нарадзіла дачку Стэфанію і сына Язэпа.

***— Вайцюшкевіч не раз публічна падтрымліваў паэта Някляева, які заняўся палітыкай. Чаму? Можа ёсць жаданне самому стаць палітыкам?***

— Няма абсалютна. А Уладзіміра Пракопавіча падтрымліваю не толькі таму, што ён аўтар цудоўных вершаў, якога лічу адным з лепшых паэтаў сучаснасці. Проста ад яго тады шмат хто адмовіўся. У тым ліку і тыя, хто на працягу дзесяцігоддзяў «біў сябе пяткай у грудзі», даказваючы асабістую адданасць.

Так рабіць нельга. Непрыстойна.

Я нікога з іх не асуджаю, бо ў нашым жыцці бывае рознае, але сам так ніколі не раблю.

# Песенны марафон для вольных людзей

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Фестывальны марафон у сталіцы 21 мая ў клубе «Re:Public» распачаў «Свабодны фэст», прысвечаны 60-годдзю першага выхаду ў эфір беларускай службы Радыё «Свабода».**



Мікіта Найдзёнаў — саліст гурта HURMA



Гурт KRAMA



Гітарыст гурта KRAMA Сяргей Труханоў



Бард Сяргей Башлыкевіч — саліст гурта Leibonik

Паколькі арганізатары, услед за рэдакцыяй Радыё «Свабода», дэкларавалі свабодны падыход да прыкладаў творчага самавыяўлення беларускіх музыкантаў, то і зрабілі ўваход для слухачоў на «Свабодны фэст» у клуб «Re:Public» бясплатным. Маўляў, у пытаннях свабоды трэба быць паслядоўным.

Задума арганізатараў аказалася пазітыўнай з пункту гледжання наведвання канцэрта і святочнага настрою слухачоў. Добрую справу зрабіў і ўдумлівы падбор артыстаў, якія былі заяўлены хэдлайнерамі гэтай музычнай імпрэзы.

Распачаць жа «Свабодны фэст» было даручана карэспандэнту Радыё «Свабода» Валеру Каліноўскаму, які распавёў пра гісторыю знакамітай радыёстанцыі, пра аўтарскі калектыў рэдакцыі і праекты, над якімі працуюць сёння журналісты Радыё «Свабода». Тым часам на клубную сцэну выйшаў першы з заяўленых гуртоў — «Петр Клюеў BAND». Свой сэт удзельнікі гэтай каманды распачалі джаз-рокавым каверам на песню гурта «Уліс» «Радыё Свабода». Дарэчы, гэты стары ўлісаўскі хіт стаў адным з лейтматываў фэсту, прысвечанага 60-годдзю Радыё «Свабода».

Трэба адзначыць высокі выканаўчы ўзровень калектыву, у складзе якога легендарны бубнач гурта «Ляпіс Трубяцкой» Аляксандр Старажук. Гэтым разам музыканты «Петр Клюеў BAND» парадавалі слухачоў аўтарскімі кампазіцыямі на вершы класікаў беларускай паэзіі, так і на ўласныя тэксты. Добра ўспрынялі слухачы, напрыклад, лірычную кампазіцыю «Пра мілую», у якой гарманічна спалучаліся каноны поп-музыкі, фанку і джаз-року. Малазнаёмае маладым слухачам стылістычнае спалучэнне, але цікавае і рэдкае на нашай рок-сцэне.

Наступнае трыа, удзельнікі якога выйшлі на сцэну, мела назву «Leibonik», фронтмэнам якога выступіў знаны беларускі бард Сяргей Башлыкевіч. У рэпертуары гурта прысутнічаюць музычна-акустычныя эксперыменты, такія, як кампазіцыя паганскага цыкла «Балван». Ёсць і ўдумлівыя, шчымлівыя балады, кшталту «На пахаванне Рыгора Барадуліна». Нягледзячы на сур'ёзнасць тэм кампазіцый гурта «Leibonik», музыканты змаглі парадаваць слухачоў і дасціпным гумарам у музычным жарце, прысвечаным нядаўняй пераможцы «Еўрабачання» Канчыце Вурст — «Жанчына з барадой». А завяршыў свае выступленне гурт «Leibonik» беларускамоўным каверам на адзін з хітоў сусветна вядомага спевака Фалько.

Гурт «Haina» — з'ява на беларускай рок-сцэне яшчэ не зусім знаёмая, хоць музыканты выйшлі са склада гурта «Абшар». І тым не менш, выканаўцы ў новым складзе змаглі прыцягнуць да сваёй творчасці пільную ўвагу. Бо слухачам ужо вядомыя кампазіцыі з іх першага ЕР «Мішэні», творы з якога і выканалі на фэсце музыканты гурта «Haina». Цікавы і іх інструментальны склад: акардэон, на якім грае лідар гурта Ілля Паплеўка, бубны і электрычная скрыпка. Такое спалучэнне дазваляе музыкантам выконваць складаныя аранжыроўкі, якія часам мяжуюць з сімфа-рокам і нават з медыевальнымі стылямі.

Больш простую і хітавую музыку прапанавалі ўдзельнікі гурта «Hurma». Адзначу стылёвасць гэтай маладой каманды і іх сучаснае гучанне, якое палягае недзе на мяжы брыт-попа, фанка і папулярнай музыкі MTV-фармату. Артыстызм і вакальная пластычнасць фронтмэна Мікіты Найдзенава была добра прадэманстравана падчас выканання такіх кампазіцый гурта, як «Давай на раз, два, тры», «Шукай», «Дзякуй», «Ты закаханая ў рэтра» і іншых твораў.

Як старых знаёмых сустрэлі слухачы гурт «Recha» і яго нязменнага лідара Андруся Такінданга. І гэта не дзіва: іх кліп на песню «Горад» узяў прэміі на васьмі кліп-фэстах у Беларусі і за яе межамі і стаў хітом у інтэрнэце. Акрамя «Горада», у гурта маецца шмат кампазіцый, у якіх адчуваецца сінтэз балканскіх найгрышаў з рытмамі рэгі, беларускага фальклору і афрыканскіх традыцый, якія смела спалучаюць музыканты гурта «Recha». Таму і першыя песні А. Такінданга «Сацьяграха», «Музыкантам», «Гражына», і завяршальная — «Дапабачэння», сталі для слухачоў добрай падставай для ўсталявання выдатнага, пазітыўнага настрою перад сэтам галоўных хэдлайнераў «Свабоднага фэсту» — легенды беларускай рок-музыкі, гурта «Крама».

Аматараў творчасці Ігара Варашкевіча і яго сяброў даўно ўжо турбавала пытанне наконт новага альбома знанага гурта і яго стылістычнай скіраванасці. Трэба адзначыць, што музыканты не падвялі чаканні сваіх прыхільнікаў і прэзентавалі на фэсце амаль усе кампазіцыі новага дыска гурта, які будзе мець назву па адной з кампазіцый — «Белая вада». Стала відавочна, што стылістычна гэты альбом будзе працягам папярэдніх прац калектыву. На ім будуць і шчырыя балады, і іранічныя сацыяльна-бытавыя замалёўкі ў стылі рок-н-рол, і блюз-рок. Ну а для сваіх прыхільнікаў розных узростаў музыканты гурта «Крама» зрабілі сапраўдны падарунак у выглядзе сэта з галоўных хітоў гэтай каманды. Якасць музыкі і выканаўчае майстэрства ўдзельнікаў гурта «Крама» не маглі не захапіць прысутных усіх узростаў, і дзякуючы гэтаму настрой слухачоў узняўся на самы высокі ўзровень. Гэты пазітыўны пасыл фэсту падтрымліваўся арганізатарамі, якія без перапынку праводзілі цікавыя конкурсы на веданне гісторыі і сённяшняга дня Радыё «Свабода».

Бадай толькі адна акалічнасць фестывальных падзей выклікала трывогу. У холе клуба «Re:Public» не было чуваць голасу Вітаўта Мартыненкі, які ўжо шмат гадоў на такіх канцэртах займаецца прапагандай дыскаў з беларускай рок-музыкай, бардаўскай песняй, фальклорам. Заўсёды месца, дзе Вітаўт распавядаў пра гісторыю стварэння сваіх кніг і беларускіх дыскаў, ператваралася ў своеасаблівы дыскусійны клуб.

На жаль, Вітаўта гэтым разам на звычным месцы не было: вядомы беларускі журналіст і паэт са складаным захворваннем трапіў у шпіталь. Пажадаем Вітаўту хутчэйшага выздараўлення і новых спраў на карысць беларускай культуры сучаснасці.

## ТБМ дзякуе сваім ахвярадаўцам

**Кіраўніцтва таварыства беларускай мовы дзякуе усім, хто адгукнуўся на просьбу і дапамог арганізацыі знайсці сродкі на аплату арэнды.**

«У свой час кіраўніцтва ТБМ праз СМІ звярнулася за падтрымкай да грамадзян Беларусі і іншых краін у сувязі з павелічэннем аплаты за сядзібу ТБМ у тры разы. Нягледзячы на тое, што з красавіка гэтага 2014 года арэндная плата зноў павялічылася і дасягнула 10 мільёнаў 771 тысячы 200 рублёў, дзякуючы грамадскай падтрымцы мы можам утрымліваць офіс ТБМ у цэнтры Мінска», — паведаміў кіраўнік ТБМ Алег Трусаў.

Сярод ахвярадаўцаў мы хочам адзначыць у першую чаргу нашых пастаянных фундатараў і ахвярадаўцаў. Сярод іх — Андрэй Міцкевіч, Павел Бераговіч з Таліна, сям'я Прыгожыных з Масквы, Фелікс Шкірманкоў са Слаўгарада, Алег Лягушаў са станцыі Ясень Асіповіцкага раёна, Юлія Пухоўская, Віктар Данілюк, Павел Чайкоўскі, Ірына Прылішч, Тамара Лазарук, Анатоль Чачотка, Іван Кукавенка, Мікола Бамбіза, Валянціна Вяргей, Тацяна Раманюк з Мінска, Анатоль Краўчанка з Мінска, Аляксандра Восіпава з Гомеля, Людвіка Таўгень з Валожына, Роза Рымар, Лілія Некраш, Зміцер Мартынчык з Гродна, Васіль Рагаўцоў з Магілёва, Антон Фурс з Паставаў, Сяргей Птушко з в. Хільчыцы Жыткавіцкага раёна, клуб «Спадчына» з в. Дзварэц Дзятлаўскага раёна, сябры клуба «Прамова» з Мінску, Мар'ян Місевіч з м. Падсвілле Глыбоцкага раёна, сябры ТБМ з Наваполацка, Надзея Барт-Юрэвіч з Германіі, Кухаронак Аляксандр са Смілавіч, Касцюкевіч Зміцер з Чэрвеня, Уладзімір Мануленка з Брэста, Васіль Усціновіч з п. Лясны Мінскага раёна і многія іншыя.

Усім жадаючым дапамагчы ТБМ паведамляем рахунак: 3015741233011 код 739 у аддзяленні №539 ААТ «Белінвестбанка» УНП 100129705.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 667

Падпісана да друку 23.05.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.